◂ № 2 (371) ◂ 17 студзеня ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ІВАН НІКІТЧАНКА

Стар. 14

## ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Ці пазбегне Беларусь лёсу Брэтані? І калі змаганне за мову з суседкай-імперыяй будзе прайграна, то ці пойдзе Беларусь у барацьбе за суверэннасць і грамадзянскія свабоды шляхам ірландцаў, а не брэтонцаў?

Стар. 4–5

## НЕПАТРЭБНЫ БЮДЖЭТ

Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце атрымае ў гэтым годзе 75 мільярдаў беларускіх рублёў. Упраўленне справамі прэзідэнта — 1 трыльён 332 мільярда рублёў. А ўвесь апарат Савету міністраў — усяго 60,8 мільярда рублёў

Стар. 6

## ВАЙНА ЗА ВАЙНУ

Стар. 12

ISSN 2218-2144

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

## ЖАРТАЧКІ АД МІРАНОВІЧА

Артыкул Сяргея Чыгрына

З НАГОДЫ




# ВЫБАРЫ, ЯКІЯ ЗАМОЎЧВАЮЦЦА

Сяргей ПУЛЬША

**У краіне ідзе кампанія па выбарах у мясцовыя Саветы. Але гэтага не бачна і не чутна. Падаецца, што гэтыя выбары замоўчваюцца свядома.**

З аднаго боку, старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына выказвае нават пэўную незадаволенасць тым, што на мясцовую кампанію ніхто не звяртае ўвагі. Па яе словах, ёй хацелася б драйву і актыўнасці. Але такога не адбываецца, і спадарыня Ярмошына звыкла абвінавачвае ў гэтым журналістаў. Яна нават выказала меркаванне, што яўка на выбарах, аказваецца, залежыць ад таго, наколькі будуць актыўныя сродкі масавай інфармацыі, а не ад таго, наколькі выбары добра арганізаваныя, ці ёсць на іх канкурэнцыя, наколькі выбар народа ўплывае на ўладу і наколькі справядлівы падлік галасоў…

Па словах Ярмошынай, ступень дасведчанасці выбаршчыкаў аб выбарах залежыць ад актыўнасці СМІ. Калі б не было прэсы, то людзі б і не ведалі пра тое, што ў краіне пройдуць выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Кіраўніца Цэнтрвыбаркама спадзяецца, што сродкі масавай інфармацыі аб'ектыўна падыдуць да асвятлення выбараў. На яе думку, асвятляць увесь працэс выбараў трэба пісьменна, цікава, творча. І галоўнае — нясумна, бо нуда здольная забіць любы працэс.

З іншага боку, усё выглядае наадварот. Першы этап кампаніі — фармаванне акруговых і тэрытарыяльных выбарчых камісіяў — скончыўся звыкла і традыцыйна: прадстаўнікоў апазіцыі туды не дапусцілі (*больш падрабязна пра гэта — на стар. 6*). З 12 студзеня пачынаецца збор подпісаў грамадзянаў за вылучэнне кандыдатамі ў дэпутаты, але і тут актыўнасць патэнцыйных кандыдатаў блізкая да мінімуму. Ды якая можа быць актыўнасць, калі ўсё забаронена?

Напрыклад, Мінгарвыканкам забараніў праводзіць пікеты па зборы подпісаў выбаршчыкаў у любых месцах, дзе магчымы збор вялікай колькасці грамадзян. Забарона тычыцца Кастрычніцкай і Прывакзальнай плошчаў, плошчаў Незалежнасці і Перамогі. Забаронена ставіць пікеты і збіраць подпісы на адлегласці менш за 200 метраў ад рэзідэнцый Лукашэнкі, будынкаў парламента, Саўміна, на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў дзяржорганаў улады, мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх установаў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цепла- і энергазабеспячэння, установ дашкольнай адукацыі, агульнай сярэдняй адукацыі, арганізацый аховы здароўя).

А калі ў краіне амаль усё забаронена, на які «драйв» разлічвае спадарыня Ярмошына? І як можа прэса цікава асвятляць тое, што не робіцца?

Персанальныя жаданні спадарыні Ярмошынай — гэта адно. А вось дзяржаве аніякай выбарчай актыўнасці зараз не трэба. І не тое што не трэба, а нават небяспечна. Выбарчая актыўнасць цягне за сабой актыўнасць палітычную, а таму лепш «замаўчаць» выбарчую актыўнасць, чым прывесці сітуацыю да грамадска-палітычных пратэстаў.

Зараз для выбарчай актыўнасці, па ўладным раскладзе, — час вельмі неспрыяльны. Толькі-толькі прыціхлі дзве маштабныя акцыі пратэсту: пратэст аўтамабілістаў супраць новай пошліны за допуск машынаў да дарожнага руху і пратэст медыкаў «хуткай дапамогі» супраць жабрацкіх заробкаў і незабяспечаных умоваў працы. Першы пратэст удалося задавіць сілавымі метадамі, з дапамогаю ДАІшнікаў і перакрыццём дарогаў. Другі пратэст прыцішыўся з-за магчымых перамоваў медыкаў з уладай. Падаецца, «хуткая дапамога» зменшага звярнула на сябе ўвагу, і недзе ў кулуарах пачалося абмеркаванне патрабаванняў дактароў.

Калі дазволіць неабмежаванае пікетаванне, хай і для збору подпісаў за кандыдатаў у дэпутаты, то ніхто не спрагназуе, для чаго ў чарговы раз будуць скарыстаныя перадвыбарчыя пікеты.

І справа не толькі ў медыках і аўтамабілістах. Вось у Гродне, напрыклад, з-за мізэрных заробкаў выхавацелькі дзіцячых садкоў звальняюцца з працы ўсім штатам: дзе працавалі 50 чалавек, засталося сем. А ўлада працягвае перакладаць цяжар уласнай правальнай эканамічнай палітыкі на насельніцтва, бо грошы больш узяць няма адкуль. Напрыклад, кажуць, што ў жыроўках беларусаў хутка з'явіцца новая графа: нам прыйдзецца плаціць за «бягучы рамонт». То бок, плаціць тым, хто працуе, усё менш, а забіраюць ад іх усё больш. І зараз гэта «больш» настолькі істотнае, што дай толькі волю — і атрымаеш сацыяльны выбух у «сацыяльна-арыентаванай дзяржаве для народа».

У такіх умовах дазволіць нейкую палёгку ў правядзенні выбарчай кампаніі — проста самагубства. Адмяніць яе зусім нельга, а таму трэба проста «зачысціць» тэрыторыю так, каб не было чуваць і піску незадавальнення. Як жартавалі ў адным з папулярных выпускаў КВЗ: «Цішыня павінна быць у бібліятэцы!»

СМІ таксама чакаюць няпростыя часы. Яшчэ 19 лістапада намеснік міністра інфармацыі Беларусі Дзмітрый Шадко на ўрадавай нарадзе паведаміў пра распрацоўку зменаў у Закон аб СМІ, якія «з мэтай арганізацыі ў інтэрнэце эфектыўнага процідзеяння негатыўным сацыяльным з'явам» могуць абавязаць інтэрнэт-выданні зарэгістравацца ў якасці сродкаў масавай інфармацыі.

Выклікае занепакоенасць тое, што рэгістрацыя інтэрнэт-рэсурсаў разглядаецца з мэтай «процідзеяння негатыўным сацыяльным з'явам». А гэта і «Стоп-падатак», і медыкі, і звальненне настаўнікаў, і ўсё, што заўгодна. Неўзабаве нават у інтэрнэце стане немагчыма пісаць ні пра што.

Такім чынам, што б там ні казала спадарыня Ярмошына пра цікавае асвятленне выбараў, гэтае асвятленне не выгаднае перш за ўсё ўладзе. Яна патрапіла не ў тую сітуацыю, калі можа сабе дазволіць «вольніцу» на выбарах, нават калі яны мясцовыя. І таму, вельмі верагодна, што сапраўднай выбарчай кампаніі, хаця б узроўню 2010 года, зараз проста не будзе.

ЗАБАРОНА НА ПРАФЕСІЮ

# ЗНОЎ ЗВАЛЬНЯЮЦЬ ГІСТОРЫКАЎ

**Кандыдат гістарычных навук Гродзенскага ўніверсітэта Іна Соркіна не абрана на пасаду дацэнта.**

Соркіну замяніць Уладзімір Ягорычаў — выкладчык з красамоўнай мянушкай «сталініст». Пра гэта першай паведаміла ў Фэйсбуку суполка «Гарадзенская бібліятэка». Іну Соркіну звольніла Рада факультэта гісторыі, турызму і камунікацыі Гродзенскага ўніверсітэта.

— Няма іншых прычын, акрамя палітычных, выкідаць з універсітэта навукоўца і выкладчыка, якая мае 70 навуковых публікацыяў за апошнія пяць гадоў, — лічаць у суполцы. — Кіраўніцтва гістфака замяняе яе на Уладзіміра Ягорычава, выкладчыка з красамоўнай мянушкай «сталініст», які зрабіў асуджальную экспертызу кнігі Алеся Бяляцкага «Асвечаныя Беларушчынай»?

У размове з карэспандэнтам «Салідарнасці» Іна Соркіна адзначыла:

— Самога факта звальнення яшчэ не адбылося. Давайце пакінем гэтае пытанне да таго часу, калі будзе прынята канчатковае рашэнне Радай універсітэта.

Пакуль я выкарыстоўваю ўсе ўнутраныя ўніверсітэцкія механізмы, каб пазмагацца за свае права на працу. Таму я усіх прашу прабачыць за тое, што пакуль не хачу каментаваць гэтую сітуацыю.

У 2012–2013 гадах працу ў Гродзенскім універсітэце страцілі Андрэй Чарнякевіч, Ігар Кузьмініч, Вячаслаў Швед.

Чарнякевіч і Швед былі аўтарамі кнігі «Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада».

Экс-губернатар Гродзеншчыны Сямён Шапіра прызнаўся, што асабіста загадаў звольніць Андрэя Чарнякевіча і заявіў: «Ва ўніверсітэце шаснаццаць чалавек, якія заклікаюць звергнуць уладу».

Ігар Кузьмініч звольніўся ў знак пратэсту супраць незаконнага пераследу выкладчыкаў за іх грамадскія погляды.

Доктар гістарычных навук Вячаслаў Швед дагэтуль не ўладкаваўся на працу.

— Мяне не бяруць: я ў «чорным спісе», — гаворыць суразмоўца. — Займаюся навукай. Атрымліваю навуковую стыпендыю Варшаўскага ўніверсітэта, рыхтую кнігу. Дый мае калегі не прапалі: Чарнякевіч піша доктарскую працу ў Польшчы, Ігар Кузьмініч займаецца кандыдацкай дысертацыяй.

Са слоў Шведа, сітуацыя, якая склалася з Інай Соркінай, паказвае, што зачышчэнне ўніверсітэта працягваецца. На пытанне, за што пацярпела ягоная калега, адказвае:

— За яе актыўную грамадскую пазіцыю, за яе падтрымку нас траіх. За кожнага яна падпісвалася — за Чарнякевіча, Кузьмініча і мяне.

**Паводле gazetaby.com**

ПАЛІТВЯЗНІ

# ПАЛІТВЯЗЕНЬ ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ ПРАВЁЎ У ШЫЗА 247 СУТАК

Генадзь КЕСНЕР

**Адзін з сябраў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Яўген Васьковіч, які з кастрычніка 2011 года адбывае пакаранне ў турме №4 у Магілёве, за час зняволення правёў у штрафным ізалятары (ШЫЗА) 247 сутак.**

Пра гэта паведаміла прэсслужба БХД. У сярэднім за месяц маладзён праводзіць у ШЫЗА 18–20 дзён.

Паводле інфармацыі адказнага сакратара БХД Дзяніса Садоўскага, Васьковіч і гэты Новы год сустрэў у штрафным ізалятары. Турэмная адміністрацыя абгрунтоўвае накіраванні палітвязня ў ізалятар пераважна «адмовою выконваць законныя патрабаванні супрацоўнікаў турмы». Цяпер пры росце 186 сантыметраў маладзён важыць толькі 65 кілаграмаў. Паводле прэс-службы БХД, Васьковіч нерэгулярна атрымлівае лісты і бандэролі.

Як адзначыў у каментары НЧ намеснік старшыні незарэгістраванага Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч, адміністрацыі турмаў і калоніяў часта спецыяльна аддаюць распараджэнні, загадзя ведаючы, што вязень не будзе іх выконваць. Такім чынам пры пэўнай патрэбе чалавека могуць «падвесці» пад артыкул 411 Крымінальнага кодэкса Беларусі (сістэматычнае невыкананне патрабаванняў адміністрацыі пенітэнцыярных установаў), што можа пацягнуць за сабою судовае разбіральніцтва, а вязень — атрымаць дадатковы тэрмін пазбаўлення волі. Валянцін Стэфановіч нагадаў, што такім чынам улады абышліся з лідарам «Маладога фронту» Змітром Дашкевічам.

«Відаць, такім чынам абыходзяцца і з Васьковічам, ведаючы, што ён не будзе выконваць патрабаванняў, якія могуць змяніць ягоны статус у месцах пазбаўлення волі. Змяшчэнне яго ў ШЫЗА трэба адназначна разглядаць як форму ўціску на вязня. Да таго ж, умовы знаходжання ў ШЫЗА выклікаюць у нас вялікую крытыку, мы лічым знаходжанне там бесчалавечным абыходжаннем і катаваннямі. У штрафным ізалятары людзі не могуць нармальна спаць, удзень яны нават не могуць сядзець на шконках, бо яны на дзень прыкручваюцца да сценкі, вязні зведваюць недахоп свежага паветра. І тое, што Васьковіч важыць так мала пры такім росце, сведчыць, што ён відавочна мае недахоп і ў харчаванні. Так што ўсё адбіваецца на вязнях самым адмоўным чынам», — падкрэсліў юрыст і праваабаронца.

Нагадайма, што за спробу падпалу ў ноч на 17 кастрычніка 2010 года будынку мясцовага КДБ у Бабруйску былі асуджаныя Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Павел Сырамалотаў. Ім інкрымінавалі парушэнне часткі 2 артыкула 339 (злоснае хуліганства) і часткі 3 артыкула 218 (наўмыснае пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Вырак — па сем гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

КАМПАНІЯ

# ВЫКАРЫСТАЦЬ ЧМ ПА ХАКЕІ

Сяргей ПУЛЬША

**Каб націснуць на ўладу ў пытанні вызвалення палітвязняў, беларуская дэмакратычная грамадскасць абмяркоўвае правядзенне розных кампаніяў у час ЧМ.**

Першае абмеркаванне гэтага пытання адбылося ў мінулым годзе. Другое пасяджэнне 16 студзеня было прысвечана абмеркаванню канкрэтных дзеянняў.

Анатоль Лябедзька напачатку пасяджэння сказаў, што ў яго ёсць аптымізм у пытанні ціску на ўлады з мэтай вызвалення палітвязняў. Гэты аптымізм яму надаў прыклад Пуціна, які вызваліў частку палітвязняў напярэдадні Алімпіяды ў Сочы.

Гарачыя галовы, кшталту намесніка старшыні Беларускай партыі «Зялёныя» Дзмітрыя Кучука, прапаноўвалі ладзіць флэшмобы і акцыі на лядовых арэнах. Ніхто не забараняе пасвісцець падчас выступу на адкрыцці ЧМ адказных беларускіх асобаў. Карысным будзе і досвед правядзення пратэстных акцыяў падчас Алімпіяды ў Сочы. Трэба паглядзець, што і як там будзе рабіць расійская апазіцыя, і можа, нейкі досвед ужыць у беларускіх умовах, лічыць Кучук.

Людзі, больш блізкія да працы сілавых структураў, такія, як былы міністр унутраных спраў Беларусі Мечыслаў Грыб і праваабаронца Гары Паганяйла, ніякіх ілюзіяў наконт флэшмобаў ды буйных маштабных акцый ілюзіяў не маюць. Па меркаванні Грыба, на час правядзення ЧМ Мінск будзе зачышчаны ад дэструктыўных элементаў, а меры бяспекі і аховы правапарадку будуць беспрэцэдэнтнымі.

Таму разлічваць прыходзіцца на замежных гульцоў і заўзятараў, і для гэтага з імі трэба працаваць. Замежныя гульцы могуць выказацца ў абарону палітвязняў, замежныя віп-госці — дэманстратыўна не прыехаць на чэмпіянат, замест іх у краіну паспрабуюць патрапіць «неўязныя ў Беларусь», — памацаць беларускі «год гасціннасці». Распавесці заўзятарам пра сітуацыю ў Беларусі можа беларуская дыяспара. А замежныя журналісты могуць ехаць у краіну ўжо зараз — распавядаць пра краіну напярэдадні ЧМ.

Што не збіраюцца рабіць актывісты — гэта перашкаджаць заўзятарам святкаваць. «Мы нічога не будзем рабіць дзеля шкоды заўзятарам, не будзем псаваць ім свята, праводзіць спробы зрыву мерапрыемстваў і гэтак далей. Але прыцягнуць увагу да праблемаў палітзняволеных мы паспрабуем», — адзначыў Лябедзька.

**Больш падрабязна — на novychas.info**

АКЦЫЯ

# АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА ПРАЦЯГНЕ ЗБОР ПОДПІСАЎ СУПРАЦЬ ПАДАТКУ

Сяргей ПУЛЬША

**Амаль шэсць мільёнаў павінен сплаціць дзяржаве лідар АГП Анатоль Лябедзька за тое, што збіраў подпісы супраць падатку за допуск аўтамабіляў да дарожнага руху. Суд Савецкага раёна Мінска прызнаў збор подпісаў несанкцыянаваным пікетаваннем.**




Лябедзька і ягоныя паплечнікі 5 студзеня мелі намер правесці аўтапрабег супраць новага падатку. Аднак Мінгарвыканкам, куды лідар АГП звярнуўся за дазволам на мерапрыемства, такога дазволу не даў. У выніку Лябедзька і палітык Віктар Карнеенка вырашылі пазбіраць подпісы супраць падатку ля Камароўскага рынку.

Збор подпісаў прайшоў удала, таму ўдзельнікі акцыі дамовіліся правесці яе яшчэ раз, 12 студзеня. З гэтага і пачаўся дэтэктыў.

Раніцай 12 студзеня Лябедзьку затрымалі каля дома. Супрацоўнікі былі ў цывільным і не прадстаўляліся. Палітык паспеў крыкнуць мужчыну, які стаяў побач, у якой кватэры ён жыве, і папрасіць паведаміць пра затрыманне. Мужчына аказаўся чулым, і зрабіў тое, што папрасіў Лябедзька.

Палітыка спачатку адвезлі ў РУУС Савецкага раёна Мінска, потым — у апорны пункт міліцыі, які знаходзіўся побач. Прыкладна праз тры гадзіны пасля затрымання быў складзены пратакол за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства 5 студзеня. Аднак справа на гэтым не скончылася: Лябедзьку пасадзілі ў аўтамабіль, аднак дадому ён патрапіў не адразу. «На вялікай хуткасці мы выехалі на МКАД. Яны несліся, як вар'яты. З хуткасцю прыкладна 140 кіламетраў на гадзіну мяне адвезлі ў Курапаты. Там, каля «Бульбаш-хола», развярнуліся і паехалі да крэматорыя. Толькі каля 18 гадзінаў мяне прывезлі дадому ў Вяснянку», — распавёў Лябедзька.

Вываз палітычных апанентаў улады ў Курапаты ці проста ў лес — звыклая тактыка беларускіх спецслужбаў дзеля запалохвання. Аднак наўрад ці магчыма такімі сродкамі запужаць чалавека, які правёў 108 дзён у турме КДБ і неаднаразова арганізоўваў акцыі з нагадваннем пра зніклых у Беларусі палітыкаў і журналіста Дзмітрыя Завадскага. Навошта ж Лябедзьку арганізавалі «экскурсію па могілках»?

Сам палітык лічыць, што гэта не толькі элемент запужвання, але і спроба збіць актыўнасць акцыі «Стоп — падатак». «Улада спрабуе затушыць іскру «Стоп — падатку», бо гэтыя пратэсты пакуль што — толькі іскра. Але так, як яна яе тушыць, гэта незразумела, вада тое ці бензін. Задача тут была, хутчэй, не запужаць мяне, а ізаляваць: каб я невядома дзе падзеўся, потым увечары вывезці мяне ў той жа раён Курапатаў альбо да крэматорыя, кінуць там, а потым зрабіць здзіўленыя вочы: пра што кажа грамадзянін Лябедзька, яго ніхто не затрымліваў», — мяркуе палітык.

Але гэты план праваліўся, дзякуючы аднаму чалавеку — таму самаму неабыякаваму мінаку, які паведаміў пра затрыманне палітыка. І ўжо пасля гэтага міліцыянты вымушаныя былі запусціць машыну па складанні пратаколу і інш.

«Адначасова гэта і спроба запужаць незадаволеных аўтааматараў: маўляў, паглядзіце, што мы робім з больш-менш вядомымі людзьмі ў Беларусі, а што тады будзе з вамі?» — лічыць Лябедзька. Але не збіраецца кідаць збор подпісаў супраць новага падатку.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КРЭДЫТ УЖО ПРАЕДЗЕНЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Самае актуальнае пытанне пасля працяглых святаў — дзе ўзяць грошы? Гэтым пытаннем час ад часу задаюцца ўсе — ад высокіх дзяржаўных асобаў да простага дворніка. І справа ў тым, што дворніку — лягчэй.**




Чаму? Таму што грошы ў яго ёсць. Беларусы, здаецца, ужо звыкліся жыць у чаканні інфляцыяў, дэвальвацыяў і іншых непрыемнасцяў, а таму звыкла робяць перадНавагоднія заначкі. Дзяржаўным асобам цяжэй, бо гэтыя традыцыйныя заначкі спусташаюць казну, а казну напоўніць больш складана, чым уласны сямейны бюджэт.

У снежні мінулага года, не падДаўшыся на мажорныя заявы прадстаўнікоў Нацбанка аб пераломе настрояў на фінансавым рынку і стабілізацыі сітуацыі ў эканоміцы, беларусы, традыцыйна аддаўшыся дэвальвацыйных настроям, досыць актыўна пераводзілі свае рублёвыя ўклады ў валютныя. Як паведамляе той жа Нацбанк, дэпазіты насельніцтва ў нацыянальнай валюце ў снежні знізіліся на 823,9 млрд. рублёў, або 2,4%, і на 1 студзеня 2014 склалі 33,018 трлн. рублёў.

Валютныя ўклады ў снежні 2013 года выраслі на $77,3 млн., або 1,1% ,да $7289,2 млн. на 1 студзеня 2014 года. Тэрміновыя валютныя ўклады выраслі на $87,2 млн., або 1,3%, да $6855,9 млн.

Гэта значыць, што шараговы дворнік перад святамі пераводзіў свае зберажэнні ў больш надзейныя замежныя грошы. Адсюль у яго і «заначка» ёсць. Чаго не скажаш пра дзяржаўныя золатавалютныя рэзервы, з якіх насельніцтва за 2013 год з’ела $2380 млн.

А як іх не з’есці, калі дазволена? Улада сама навыпускала беларускіх грошай столькі, што падзець іх, падаецца, няма куды — альбо спусціць на інфляцыю, альбо захоўваць у валюце. І нават інфляцыя гэтыя грошы «пераЖаваць» не здолела.

Па папярэдніх падліках эканамістаў і Нацыянальнага статыстычнага камітэта, інфляцыя ў Беларусі за мінулы год склала 16,5% супраць планаваных 12%. ВУП Беларусі ўзрос на 1,1%. А вось шырокая грашовая маса ў Беларусі на 1 студзеня 2014 года склала 193,307 трлн. беларускіх рублёў, павялічыўшыся на 19,8%.

Што гэта азначае? Гэта азначае, што, па-першае, мы надрукавалі грошай на 18,7% больш, чым можам іх забяспечыць таварамі па росце ВУП (19,8 – 1,1 = 18,7). А па-другое, што мы друкуем грошай больш, чым афіцыйны ўзровень інфляцыі. То бок, інфляцыя не паспявае з’есці «лішнія» грошы. І, адпаведна, гэтыя незабяспечаныя грошы насельніцтву трэба некуды падзець. А падзець вядома куды — у валюту.

> Знешні доўг Беларусі ўжо склаў $37 млрд. 98,2 млн. Кожны грамадзянін Беларусі, уключаючы немаўлят і пенсіянераў, вінен замежнікам крыху менш за 4000 долараў

Тое, што добра для грамадзяніна (шмат грошай), для беларускай «сацыяльнаарыентаванай дзяржавы — смерць. Бо валюту на забеспячэнне «лішніх» грошай узяць няма адкуль, апроч крэдытаў. У мінулым нумары НЧ мы пісалі пра чарговы расійскі крэдыт у 2 млрд. доларАў, і пра тое, што 450 млн. доларАў ужо прыйшлі ў Беларусь. Але падаецца, што з гэтым крэдытам не ўсё чыста, і што мы яго ўжо праелі.

Агенцтва фінансавых навінаў падлічыла патрэбы беларускай эканомікі, агучаныя крэдытныя лічбы, і прыйшло да высновы, што праелі мы больш, чым «афіцыйна абвешчана» атрымалі.

Так, першым пра тое, што Беларусь яшчэ ў снежні атрымала нейкі расійскі крэдыт, паведаміў Нацбанк РБ, які радасна рапартаваў пра рост ЗВР адразу на $192,2 млн. і патлумачыў прычыны такога росту «паступленнем першай часткі крэдыту Расійскай Федэрацыі». У афіцыйным паведамленні не ўдакладнялася сума крэдыту. Медыйныя крыніцы прэсы ва ўрадзе казалі, што размова ідзе пра крэдыт у 450 млн. доларАў. 4 студзеня кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова заявіла, што паступіла першая частка расійскага крэдыту ў $440 млн. Ермакова відавочна агаварылася, назваўшы суму апошняга траншу крэдыту антыкрызіснага фонда ЕЎрАзЭС, які Беларусь у лепшым выпадку пабачыць толькі ў другой палове 2014 года.

Такім чынам, АФН не верыць у лічбу 450 млн., бо афіцыйна пра такі крэдыт нідзе гаворка не ішла. Таксама, пэўна, размова не магла ісці пра «крэдыт Пуціна» ў $2 млрд., — папраўкі ў бюджэт Расіі, якія дазваляюць даць Беларусі грошы, будуць уносіцца толькі гэтым летам. Такім чынам, грошы мог вылучыць толькі камерцыйны банк, даўшы Беларусі брыдж-крэдыт. З паправак у бюджэт РБ за 2013 год стала ясна, што крэдыторам выступіў расійскі Дзяржбанк ВТБ.

Па разліках АФН, ВТБ даў мінімум $1 млрд. на латанне дзіркі ў валютнай касе Беларусі. Разлікі простыя: у снежні $252,6 млн. сышло на абслугоўванне крэдыту МВФ, $53 млн. Мінфін выдаткаваў на пагашэнне валютных аблігацый фізічным асобам. Беларускія прадпрыемствы і нерэзідэнты ў снежні набылі на чыстай аснове $99,2 млн. І ў $475,3 млн. Нацбанку абышоўся чысты попыт насельніцтва на валюту.

Заўважце: чысты попыт насельніцтва на валюту перавысіў нават абслугоўванне дзярждоўгу і ўсіх выдаткаў разам узятых. Во як беларусы перад Новым годам заначкі рабілі! Хаця, па логіцы, павінны былі наадварот, здаваць валюту, каб набыць падарункі.

Такім чынам сукупны расход валюты ў снежні склаў $880 млн., у той час як даход склаў усяго $59,8 млн. Каб пры гэтым аб’ём ЗВР павялічыўся на $192,2 млн., Беларусі спатрэбіўся крэдыт ВТБ на суму не менш за $1 млрд. ($1 млрд + $59,8млн – $880,1 млн. = $179,7 млн.).

Такім чынам, ад мільярднага крэдыту ВТБ Расіі, калі ён быў, ужо засталіся «рожкі ды ножкі». Праўда, з 2010 года нашае кіраўніцтва вяло перамовы з ВТБ пра крэдыт у $2 млрд. Калі выдадзены такі крэдыт па нашых патрэбах, то застаецца пытанне — ці надоўга нам хопіць другога мільярда?

Варта таксама адзначыць, што гэта крэдыт, а не плата РФ на інтэграцыйныя патугі Беларусі. І гэты крэдыт давядзецца аддаваць.

Варта адзначыць, што валавы знешні доўг Беларусі на 1 кастрычніка 2013 года ўжо склаў $37 млрд. 98,2 млн. Гэта значыць, што кожны грамадзянін Беларусі, уключаючы немаўлят і пенсіянераў, вінен замежным дзядзькам крыху менш за 4000 доларАў. І пры гэтым краіна бярэ яшчэ крэдыты, бо інакш не можа. Цікава, ці ўзнікае ў кагосьці пытанне: а як мы па гэтых пазыках потым разлічвацца будзем?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ

Пасля таго, як чатыры разы запар Генпракуратура перадрасоўвала скаргі Мікалая Статкевіча на Дэпартамент выканання пакаранняў у сам ДВП, палітвязень высунуў «рацыяналізатарскую прапанову».

«Я нават не чакаў, што, замест хаця б імітацыі функцый пракурорскага нагляду, пракуратура ператварылася, як я бачу і па іншым прыкладах, у перасылачны паштовы пункт. Калі гэта ўжо здарылася, то прапаную давесці змену функцый пракуратуры да лагічнага канца і, адначасова, забяспечыць падтрымку дзяржбюджэту краіны», — напісаў Статкевіч у рацпрапанове.

Статкевіч прапануе адмовіцца ад дзяржаўнага абвінавачання ў судах і выкарыстання ў судовых працэсах пракурораў — суддзі ўжо дастаткова навучаны і справяцца з задачамі і без іхняй дапамогі. Далей трэба скараціць усіх супрацоўнікаў Генпракуратуры, а замест іх узяць на працу двух супрацоўнікаў паштовых аддзяленняў. Адпаведна, Генпракуратура павінна мець назву Генеральны паштовы перасылачны пункт. Генпракурор, паводле Статкевіча, на сваёй пасадзе застанецца, але будзе называцца начальнікам ГППП. Зэканомленыя ў выніку сродкі (заробак, абсталяванне кабінетаў, накладныя выдаткі, пашыў прыгожых блакітных касцюмаў) пералічыць у дзяржаўны бюджэт краіны.

Грашовае ўзнагароджанне, належнае Статкевічу за рацыяналізатарскую прапанову, ён просіць пералічыць у фонд дапамогі беспрацоўным пракурорскім работнікам.



### АНДРЭЙ КАБЯКОЎ

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Кабякоў атрымаў калядны падарунак. Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў яго ордэнам Айчыны III ступені за «шматгадовую плённую працу, значны асабісты ўклад у дзяржаўнае будаўніцтва і сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны».

Невядома, як разумець гэтую ўзнагароду. З аднаго боку, Кабякоў узначальвае рабочую групу па праблемных пытаннях у будаўнічай галіне. За мінулы год Лукашэнка некалькі разоў разносіў гэтую галіну па кавалачках за карупцыю і доўгабудоўлі — так, што пер’е ляцела. Аднак ані Кабякоў, ані ягоная група асаблівых поспехаў так і не зазнала — апошні тэрмін вырашэння гэтых праблемаў кіраўнік дзяржавы перанёс на 1 ліпеня 2014 года.

Да таго ж за правал мадэрнізацыі на «Барысаўдрэве» Кабякоў атрымаў ад Лукашэнкі строгую і апошнюю вымову.

Ніякіх дасягненняў няма — ні з «Барысаўдрэвам», ні з будаўніцтвам. За што ж тады Кабякову ордэн? Хіба што Лукашэнка такім чынам выбачаецца: «Прабач, даражэнькі, накладачка выйшла, на табе ордэн на грудзі»…

### МАКС ЛОРЭНС І ДЗІДЗЮЛЯ



Ніводнае «Еўрабачанне» ў Беларусі не абыходзіцца без скандалу. Сёлета спевакі Макс Лорэнс і Дзідзюля накіравалі адкрыты ліст Лукашэнку, у якім просяць яго перагледзець вынікі адбору на «Еўрабачанне».

«Паважаны Аляксандр Рыгоравіч! Па выніках галасавання тэлегледачоў наш дуэт набраў 8746 галасоў і апынуўся на першым месцы сярод іншых удзельнікаў. Аднак абсалютная большасць членаў журы аддалі свае галасы спеваку Тэа, які набраў на 42% галасоў гледачоў менш і які заняў на першым этапе толькі 3 месца. Па выніках падліку, колькасць галасоў у нашага дуэта і спевака Тэа аказалася роўным. Апошняга і назвалі пераможцам фіналу члены журы», — скардзяцца выканаўцы.



На іх думку, «члены журы адкрыта праігнаравалі меркаванне народа, які палічыў менавіта наш дуэт годным прадстаўляць Беларусь на еўрапейскім конкурсе ў Даніі». «Меркаванне тысяч людзей проста не было ўлічана — 8 чалавек прынялі рашэнне за ўсю краіну. Акрамя таго, арганізатарамі адбору былі дапушчаны наступныя грубыя парушэнні: журы конкурсу працавала ў няпоўным складзе (адсутнічаў старшыня); само галасаванне журы і апрацоўка пратаколаў праходзіла ўжо пасля абвяшчэння меркавання тэлегледачоў, што стварала магчымасць падтасоўкі вынікаў адбору. Вынік конкурсу аказаўся такім, як калі б людзі не галасавалі зусім», — енчаць Макс Лорэнс і Дзідзюля.

Нейкія дзівакі гэтыя Лорэнс і Дзідзюля. Хіба яны ніводнага разу не былі на беларускім выбарчым участку? Там і не такое пабачыш. А калі не былі — тым больш іх на «Еўрабачанне» не пушчаць! Што гэта за непатрыятычныя паводзіны?

ГЕАПАЛІТЫКА

# ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Анджэй С. КАМІНСКІ

**Ці пазбегне Беларусь лёсу Брэтані? І калі змаганне за мову з суседкай-імперыяй будзе прайграна (як гэта было ў Ірландыі), то ці пойдзе Беларусь у барацьбе за суверэннасць і грамадзянскія свабоды шляхам ірландцаў, а не брэтонцаў? І нават больш: ці можна спадзявацца, што Беларусь не стане расійскай Брэтанню?**

Цяперашнія ўлады, а перадусім Аляксандр Лукашэнка, відаць, больш прывязаныя да мовы ўсходніх суседзяў, чым да сваёй уласнай. Адасабленне ад Еўропы і цесныя сувязі з Расіяй падводзяць да не вельмі аптымістычнага адказу на толькі што пастаўленыя пытанні.

Праціўнікі Лукашэнкі — злева, справа і з ліберальна-дэмакратычнага цэнтру, кожны па-свойму, — стараюцца стрымліваць працэсы брэтанізацыі. Для адных барацьба за мову з'яўляецца інтэгральнай часткай барацьбы за суверэннасць, для іншых моўнае пытанне не з'яўляецца такім важным. Аднак усё большая частка апазіцыі, а таксама і цяперашняга электарату Лукашэнкі пачынаюць разумець аддаленыя наступствы палітыкі «зачыненых дзвярэй», якія аддзяляюць Мінск ад Еўропы.

## Абуджэнне нацыянальных рухаў

Цікава і карысна пагладзець на змены ў Еўропе на працягу двух тысячагоддзяў, карыстаючыся для параўнання наборам карт, якія адлюстроўваць не толькі дзяржаўныя межы, але таксама межы рэлігій, мовы і народнасцяў праз кожныя 500 або 300 гадоў.

Здзіўляе адсутнасць стабільнасці, знікненне шматвяковых запісаў і з'яўленне невядомых раней назваў. Здзівіць нас можа і адыход у нябыт моваў высокай літаратуры, такіх, як праванcальская або старабеларуская, не кажучы ўжо пра лаціну, без якой увогуле не было б еўрапейскай цывілізацыі. Здзівіла б нас таксама знікненне і раптоўнае ўваскрэсенне этнонімаў.

І сапраўды, народы, якія на працягу доўгіх стагоддзяў як быццам знаходзіліся ў стане зімовай спячкі, даволі хутка абудзіліся і пачалі самі вырашаць свой лёс — так было ў выпадку славакаў, славенцаў, латышоў і эстонцаў.

У сучасных дэмакратычных дзяржавах нацыянальныя рухі далей выступаюць з патрабаваннем пашырэння аўтаноміі і самакіравання: баскі, шатландцы, у меншай ступені валійцы і немецкія аўтахтоны на Апольшчыне [*Opolszczyzna, Польшча — рэд.*].

Расія і Кітай — шматнацыянальныя імперыі з арбітральным спосабам кіравання — з'яўляюцца майстрамі ў вырашэнні гэтых спраў. Іх кіраўнікі добра разумеюць, што гэта бомба, якая выбухае звычайна ў часы наймацнейшага крызісу, які знясільвае дзяржаву. Узгаданыя імперыі з'яўляюцца прафесіяналамі ў запуску злучальных і асіміляцыйных працэсаў. Узорам для іх служыць, з аднаго боку, міжнародны «кацёл» — ЗША, а з другога — Брытанія. Пры тым, аднак, ні кітайцы, ні рускія не могуць змірыцца са стратай этнічнай дамінацыі, таму іх манеўры а-ля ЗША даволі абмежаваныя.



Лубачная выява канцэпцыі «Масква — Трэці Рым», стылізаваная пад праваслаўную ікону. Аўтар невядомы, час стварэння — 2011 год

## Трэці Рым

Вось ужо некалькі стагоддзяў Крэмль вядзе барацьбу за падпарадкаванне земель і народаў, якія некалі ўваходзілі ў склад Кіеўскай Русі. Ваенная агрэсія заўсёды суправаджалася змаганнем за сімвалы і гісторыю. Не хацелася б тут развіваць гэтую тэму, але варта прыгадаць некаторыя аповеды. З аднаго боку, пра Белага Каўпака — перанос сімвалу праўдзівай веры з Рыму ў Візантыю, а затым — у Ноўгарад. З другога — тэорыю Трэцяга Рыму, лакалізаванага ў Маскве.

Калі ідэя Трэцяга Рыму апраўдвала дамінаванне маскоўскай Царквы ў праваслаўі, то больш позні вобраз трох дружных сясцёр — Расіі, Малой Русі і Беларусі — выкарыстоўваўся дзеля абгрунтавання іх падпарадкавання старэйшай сястры — Маскве.

Пад канец XVIII стагоддзя, пасля захопу большасці тэрыторый Русі, афіцыйны Санкт-Пецярбург



## Даведка

Анджэй Суліма Камінскі — выпускнік гістарычнага факультэта Ягелонскага ўніверсітэта. У 1970–1982 гадах — прафесар Калумбійскага ўніверсітэта (Нью-Йорк). З 1982 года працуе ў Джорджтаўнскім універсітэце ў Вашынгтоне. Сферай яго навуковых інтарэсаў з'яўляецца гісторыя Рэчы Паспалітай, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама Расіі XVI–XVIII стагоддзяў.

Ён спрычыніўся да развенчвання шматлікіх стэрэатыпаў, звязаных з міжэтнічнымі адносінамі ў Рэчы Паспалітай. Яго называюць стваральнікам «габрэйскай школы Камінскага», якая займаецца даследаваннем польска-габрэйскай гісторыі. Адзін з ініцыятараў і стваральнікаў арганізацыі «East Central European Scholarship Program» для навукоўцаў з посткамуністычных краін. Выхаваў цэлае пакаленне даследчыкаў гісторыі Рэчы Паспалітай. Яго вучні працуюць у вядучых універсітэтах ЗША, Канады, Шатландыі, Ізраіля і Польшчы.

Пасля 1989 года часта выкладае ў Польшчы. З 2004-га штогод удзельнічае ў Летняй школе Studium Europy Wschodniej Варшаўскага Універсітэта для даследчыкаў з посткамуністычных краін, у большасці — беларусаў і ўкраінцаў. Стварыў Інстытут грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі пры Універсітэце Лазарскага, у структуры якога пазней паўстаў Беларускі цэнтр і стыпендыяльная праграма для навукоўцаў, творцаў і дэмакратычных дзеячаў з Беларусі.

Справу развенчвання гістарычных міфаў працягвае ў цыкле канферэнцый «Вяртанне забытай гісторыі. Уяўленні пра Цэнтральную і Усходнюю Еўропу ў англамоўных акадэмічных падручніках».

У 2008 годзе прафесар Камінскі быў адзначаны Камандорскім Крыжам Ордэну Адраджэння Польшчы.

ГУБЕРНІ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1912–1917 ГГ.

Контурна абазначаны межы сучаснай Рэспублікі Беларусь (*karty.by*)



ПАРАЎНАЛЬНАЯ КАРТА БНР І БССР

Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі ў вызначэнні тэрыторыі краіны выходзілі з этнічных межаў Беларусі, даследаваных акадэмікам Яўхімам Карскім (*karty.by*)

узмацніў рыторыку абаронцы і пратэктара ўсяго славянскага і праваслаўнага свету. Не дзіўна, што паўночная Семіраміда з такой зацятасцю пераследавала грэка-каталікоў на землях, якія былі захопленыя падчас падзелаў Рэчы Паспалітай. Уладарам Расіі, як раней, так і сёння, было больш выгадна, каб большасць славянскіх народаў уваходзіла ў абшар праваслаўя і прыслухоўвалася да рэкамендацый Рускай Праваслаўнай Царквы. Гэты аспект духоўнай залежнасці можна прасачыць як у гісторыі, так і ў сённяшняй палітыцы.

Праваслаўе, непасрэдна падпарадкаванае свецкай уладзе з часоў Пятра I, выконвала функцыю абароннага шчыта Расіі перад «чужынскімі ўплывамі» і дапамагала абгрунтоўваць пашырэнне дзяржавы на захад і поўдзень. Наступ у паўднёвым напрамку трактаваўся як «вызваленне» праваслаўных з атаманскай няволі. Агрэсія на захад называлася «вяртаннем» праўдзівай праваслаўнай веры беларусам і ўкраінцам. Адрозненне Расіі ад Захаду падкрэслівалася з дапамогай рэлігійна-этычнай тэрміналогіі. Тут была праўдзівая вера і чыстае сэрца, там — сапсаваная суверэнная царква і маральная дэградацыя. Апошнім часам выбар паміж Расіяй і Еўропай стаў асабліва актуальным для ўсіх народаў, вызваленых у 1989 або 1991 годзе ад савецкай імперыі.

## Беларусь і Украіна: пагроза паўторнай «брэтанізацыі»

Этнічная Польшча, якая ў X стагоддзі прыняла хрысціянства ў рымскім абрадзе, успрымалася як траянскі конь у славянскім моры, як еўрапейская краіна, якая ўводзіла «ворага Расіі» — еўрапейскасць — на землі беларускай і ўкраінскай славяншчыны. Калі глянуць на мапу Еўропы XIX стагоддзя (за выключэннем Каўказскага рэгіёна), то можна налічыць як мінімум 20 народнасцяў, якім вялікія дзяржавы наканавалі лёс брэтонцаў.

Аднак ужо ў 1918 годзе большасць з іх выбіла сабе незалежнасць. Іншыя далучыліся да іх у 1989–1991 гадах. Але назіраючы за дзеяннямі Крамля і цэнтралісцкай палітыкай Брусэля, пагроза паўторнай «брэтанізацыі» падаецца дагэтуль актуальнай і на дадзены момант найбольш пагражае Беларусі і Украіне.

Украінцы, абараняючыся, зноў выходзяць на Майдан і стараюцца не дазволіць адасаблення ад Еўропы і ўзмацнення залежнасці ад Расіі. Ці атрымаецца ў іх, пакуль што невядома, але напэўна варта імі захапляцца. Яны крычаць на Майдане, што з'яўляюцца еўрапейскай краінай і не будуць станавіцца на калені перад Пуціным. Януковіч, аднак, ужо стаіць на каленях, а суседзі ўкраінцаў, напрыклад, Польшча, як быццам няздатныя (з-за страху?) на грузінскі жэст святой памяці Леха Качынскага.

Заўважым, аднак, што з часоў Багдана Хмяльніцкага ўкраінскія падзеі досыць моцна ўплывалі на Беларусь. Ці і гэтым разам так будзе? Хочацца ў гэта верыць, бо кожны масавы грамадзянскі супраціў стрымлівае працэсы брэтанізацыі. Ён страсае маладое пакаленне, ачышчае з закасцянелага бруду саветызацыі.




## А што ж беларусы?

Мае беларускія сябры кажуць, зыходзячы са статыстычных даденых, што сённяшняя школьная моладзь ужо не адносіць да пяці найвялікшых герояў Беларусі імператрыцу Кацярыну, званую Вялікай, Пятра I, Суворава, як гэта было ў 1993 годзе.

Гэта, канешне, добрая навіна, якая сведчыць пра эфектыўную барацьбу настаўнікаў і прафесійных гісторыкаў за права на ўласную гісторыю. Але ці дае падставы для аптымізму афіцыйная і выкладзеная ў падручніках і медыях ацэнка Другой сусветнай вайны? У якой ступені маладыя беларусы ангажуюцца ў змаганне за ўласную грамадзянскую, а разам з гэтым і суверэнную Беларусь? Можна разгледзець гэтую з'яву праз мікраскапічную прызму Універсітэта ім. Рышарда Лазарскага ў Варшаве.

Вось ужо 7 гадоў там існуе Цэнтр беларускіх даследаванняў і ладзяцца міжнародныя канферэнцыі, якія збіраюць разам прадстаўнікоў апазіцыйнай эліты Беларусі, а таксама беларускіх і замежных гісторыкаў, сацыёлагаў і экспертаў у розных галінах. Ва Універсітэце Лазарскага навучаюцца больш за 200 студэнтаў з Беларусі, але ў ліфтах, на калідорах і ў сталоўках гучыць руская мова.

Апрача таго, беларускія студэнты вельмі рэдка цікавяцца Беларускім цэнтрам і рэдка бяруць удзел у яго ініцыятывах, хоць, праўда, апошнім часам сітуацыя паляпшаецца. Найбольш здзіўляе адсутнасць зацікаўленасці ў альтэрнатыве для цяперашняга status quo. Ці прычынай таму не вельмі тыповы для маладых людзей, маладушны эгаістычны прагматызм, ці нейкая духоўная несумяшчальнасць моладзі з прысутнымі на канферэнцыях прадстаўнікамі апазіцыі?

Варта таксама паставіць пытанне, чаму ў лепшым выпадку 10% студэнтаў з Беларусі наведвае і ўдзельнічае ў працы Беларускага цэнтра. Адначасова трэба заўважыць, што большасць з іх вельмі хутка асвойваюць польскую і англійскую мовы, а найбольш энергічныя пасля атрымання дыплому едуць далей на Захад.

Выбар Польшчы як месца атрымання адукацыі сведчыць пра тое, што калі не самі маладыя людзі, то іх бацькі свядома зрабілі стаўку на еўрапейскі выбар, а не на «правільную», дамашнюю, лукашэнкаўскую адукацыю. Калі так, дык адкуль бярэцца моладзевая пасіўнасць? З чым звязана іх нешматлікасць на нашых канферэнцыях? З тым, што так многа часу прысвячаюць вучобе? Ці, можа, таму, што не толькі Лукашэнка, але і апазіцыя не мае для іх ніякай вартай увагі прапановы? Ці канфлікт Лукашэнкі з палітычна разрозненай апазіцыяй успрымаецца толькі як барацьба за ўладу, замену эліты, а не перадача краіны ў рукі самасвядомых грамадзянаў?

Беларускія сацыёлагі, якія шмат гадоў даследуюць і аналізуюць змены ў поглядах беларускага насельніцтва, маюць розныя меркаванні на гэты конт. Некаторыя адказы можна знайсці ў афіцыйнай прэсе, але большасць з іх з'яўляюцца ў недзяржаўных медыях. Трэба звярнуць увагу, галоўным чынам, на наступствы цэнтралізаванага кіравання палітычнымі партыямі для грамадзянскай прасторы праз прызму досведу польскай, чэхаславацкай і венгерскай апазіцыі.

## Досвед партый

Непасрэдна перад падзеннем камунізму паасобныя групы актыўных апазіцыянераў на тэрыторыі Польшчы, Чэхаславакіі і Венгрыі ўзаемадзейнічалі ў рамках агульнанацыянальных грамадзянскіх камітэтаў. Пасля падзення камунізму на месцы камітэтаў з'явіліся партыі, якія ледзь не ваявалі адна з адной і прапаноўвалі розныя палітычныя, грамадскія і культурныя праграмы. Грамадзяне мелі права свабоднага выбару, якое выкарысталі падчас дэмакратычных выбараў. Выбарчая яўка, аднак, вельмі хутка пачала падаць і зараз рэдка ўжо перавышае 60%.

Усе партыі пераконвалі ў слушнасці сваіх праграмаў, абяцалі іх рэалізаваць, але ці якая-небудзь з гэтых партыяў дзялілася сваёй уладай з грамадзянамі? Ці якая-небудзь палітычная партыя можа адмовіцца ад цэнтралізаванага кіравання? Ці якая-небудзь партыя ўводзіла на доўгі час прынцып дэмакратычнага выбару партыйных уладаў? І ўрэшце, якая з вялікіх партый увяла прававыя і інстытуцыйна-сістэмныя гарантыі верхавенства грамадзянаў над выканаўчай уладай?

Амаль усе ліберальна-дэмакратычныя партыі абяцалі ўвесці сапраўднае самакіраванне, а таксама мажарытарныя выбары ў парламент. Але ў Польшчы дагэтуль няма мажарытарных выбараў, а ў прапарцыйных выбарчых акругах людзі галасуюць па спісах, якія складаюцца кіраўніцтвам партыі. Людзі становяцца дэпутатамі толькі па той прычыне, што з'явіліся ў спісе па волі Дональда Туска або Яраслава Качыньскага. Такая ж сітуацыя і ў посткамуністычнай партыі Лешка Мілера.

Паўтараецца сітуацыя з апошняга перыяду Рэчы Паспалітай, калі «паводле рэкамендацыі і просьбы да паноў-братоў», скіраванай Радзівілам, Патоцкім ці Сапегам, абіраліся паслы ў Сойм. У тыя часы ў гарадах, мястэчках і паветах дзейнічала мясцовае самакіраванне, прадстаўнікі якога зацята змагаліся за свае правы і прывілеі.

## Досвед грамадзянскай актыўнасці

Сёння мясцовае кіраванне — кавальня грамадзянскага духу і актыўнасці — ўсё яшчэ вельмі абмежаванае. Чым меншы доступ і ўдзел грамадзянаў у прыняцці рашэнняў на мясцовым узроўні, тым слабейшы грамадзянскі этас і тым большая верагоднасць перавтварэння грамадзянаў у вернападданых і палітычна пасіўных нахлебнікаў.

Вядома, што апазіцыйныя партыі ў Беларусі стараюцца быць як мага бліжэй да сваіх суайчыннікаў і браць удзел у вырашэнні іх штодзённых праблемаў. Ведаю, што яны стараюцца ўдзельнічаць у мясцовых выбарах, але не ведаю, у якой ступені пры фармуляванні сваіх прапаноў яны спасылаюцца на прыклады з беларускай гісторыі.

А спасылка на гэтыя ўзоры дазволіла б ясна паказаць, у якой ступені быў парушаны баланс паміж самакіраваннем і цэнтральнай уладай, у якой ступені ў колішняй грамадзянскай прасторы разраслося пустазелле вернападданства.

Беларусь мае багатую і прыгожую традыцыю гарадской і павятовай грамадзянскасці, якая каранямі сягае ў часы Рэчы Паспалітай. Мае слаўныя старонкі барацьбы за адбудову суверэнасці або прынамсі адnаўлення грамадзянскага духу і культуры першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя.

Мае векапомную драматычную гісторыю заходнебеларускай вёскі, якая старалася абараняцца і перажыць жахлівы час, калі на ўсход маршыраваў нацызм, а на захад — камунізм, знішчаючы яе дашчэнту. У 1991 годзе новая суверэнная ўлада не прысвяціла «калгаснаму» вясковаму насельніцтву належнай увагі. Такім чынам, вёска засталася па-за абшарам дэмакратычныхператварэнняў. Такі падыход у Польшчы прывёў да з'яўлення на палітычнай сцэне А. Лепера, а ў Беларусі — спрасціў палітычную кар'еру Лукашэнку.

## За сапраўднае самакіраванне

Усе палітычныя партыі заўсёды заяўлялі, што маюць адзіна правільныя праграмы і заклікалі электарат іх падтрымаць. Але мы, звычайныя людзі, рэдка атаясамліваем нашы погляды з ідэямі, сфармуляванымі ў іх праграмах. Часам, магчыма, хацелася б размеркаваць нашу падтрымку: тут — 65%, там — 25%, яшчэ дзе — 10%.

Нават у ЗША, якія ад пачатку XX стагоддзя знаходзяцца пад уладай адной з дзвюх партыяў («рэспубліканцаў» або «дэмакратаў») стоадсоткавая падтрымка для адной партыі — рэдкасць. Бывае, што людзі, якія звычайна галасуюць за дэмакратаў, падчас прэзідэнцкіх выбараў аддаюць голас за кандыдата-рэспубліканца. Такая зменлівасць назіраецца і ў выпадку губернатарскіх выбараў.

Шматпартыйныя палітычныя арганізацыі прадстаўляюць непараўнальна больш дыферэнцыяваныя і дэталізаваныя праграмы, але выбарцы рэдка схільныя на 100 працэнтаў падтрымаць тыя ці іншыя прапановы. Мяркуючы, аднак, з майго досведу жыцця ў ЗША, ніводны грамадзянін так хутка не адмовіцца ад удзелу ў выбарах мэра, шэрыфа або, што вельмі важна для многіх бацькоў, павятовага ці гарадскога шэфа адукацыі.

Змаганне за сапраўднае самакіраванне магло б стаць асноўным лозунгам усіх партыяў, якія сапраўды з'яўляюцца дэмакратычнымі. Нават калі мясцовыя выбары выйграюць, тым ці іншым спосабам, прыхільнікі Лукашэнкі, то і так гэта будзе перамога, якая можа стварыць шанцы для адраджэння грамадзянскасці.

Мясцовыя органы кіравання ў Чэхіі, Славакіі і Венгрыі вядуць барацьбу з кожным урадам за пашырэнне іх рэальных правоў. Яны ўсё яшчэ маюць менш улады і грамадзянскай вагі, чым іх адпаведнікі ў Швейцарыі, Англіі ці ЗША.

Аднвчасова гэта кузня грамадзянскага духу і грамадзянскага modus operandi. Не забывайма, што грамадзяне нараджаюцца ў змаганні за свае штодзённыя фундаментальныя правы і правы сваіх дзяцей, за магчымасць прымаць рашэнні, якія тычацца вуліцы, квартала, вёскі або мястэчка. Памятаючы пра гэта, мы маем шанец скараціць дыстанцыю паміж дэмакратычнай апазіцыяй і экс-калгаснікамі, паміж грамадскімі дзеячамі і «студэнтамі Лазарскага».

## 24 студзеня, пятніца

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.10** Серыял «Джамайка».
**11.05** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія). 3-я серыя.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Гістарычная драма «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**16.25** Серыял «Джамайка».
**17.15** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія).
**18.10** Таямніцы следства.
**19.20, 00.05** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.50** Меладрама «Падвойнае жыццё» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Фантастычны трылер «Забытае» (ЗША).
**23.40** Журналісцкае расследаванне.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.10** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Праўда дзесьці побач».
**15.25** «Зваротны адлік».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Мы з вамі дзесьці сустракаліся».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.25** Прэм'ера. Прыгодніцкі фільм «Паляўнічы».

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Пункт прызначэння-2» (ЗША - Канада, 2002 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вампіршы» (ЗША, 2011 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.40** «Ежа багоў».
**00.35** «Вялікая гульня». Покер.
**01.20** Фільм «Чатырыста ўдараў» (Францыя, 1959 г.).

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Адзін цень на дваіх» (Расія). 5-я серыя.
**10.15** Цела чалавека.
**10.50** Меладрама «Кветкі правінцыі» (Беларусьфільм).
**12.40** Драматычны серыял «Маскоўскі дворык» (Расія). Заключныя серыі.
**14.40** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.45** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.50** Імперыя песні.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Адзін цень на дваіх» (Расія). 5-я серыя.
**19.00** Фантастычная драма «Двухсотгадовы чалавек» (ЗША - Германія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**22.35** Рэпарцёр.
**23.25** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**00.15** Моладзевая драма «Супер Майк» (ЗША).

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Год у гісторыі».
**08.20** «Таямніца душы». Гродзенская семінарыя.
**08.55** «Карані».
**09.20** «Музеум». Шэдэўры беларускага іканапісу.
**09.35** Серыял «Мегрэ».
**10.20** «Сіла веры».
**10.50** «Правадыр - Белае Пяро». Мастацкі фільм.
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.15** «Год у гісторыі».
**12.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Анатоля Багатырова.
**12.55** «Магія слова і гуку». Гісторыка-этнаграфічнае даследаванне традыцыйнага ладу жыцця людзей Рускай Поўначы.
**13.35** «Шляхамі Адама Міцкевіча». Родныя мясціны паэта А. Міцкевіча ў Навагрудку.
**14.05** «Пейзажы скрозь час». Пейзажы Джона Фрэдэрыка Кэнсэта на Востраве задавальнення.
**14.30** «Палескі пачастунак». Грачанікі.
**14.45** «Скарбніца Магілеўшчыны». Гарадскарб.
**15.15** «Я помню». Мастацкі фільм.
**16.45** Мультфільмы.
**17.15** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Барыс Плотнікаў. «Узыходжанне». Дак. фільм.
**17.40** «Цуды прыроды». Коста-Рыка. Кенія.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.20** «Першы рыцар». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял «Мегрэ».
**21.35** «Сіла веры».
**22.05** VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Канцэрт.
**22.50** «Магія слова і гуку». Гісторыка-этнаграфічнае даследаванне традыцыйнага ладу жыцця людзей Рускай Поўначы.
**23.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Анатоля Багатырова.
**00.00** «Калейдаскоп».
**00.05** «Год у гісторыі».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Серыял «Мянтоўскія войны «.
**23.10** «Героі «Мянтоўскіх войн».
**23.55** Фільм «Памылка следства».

### МИР

**05.00** Ранішні інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15** Тэлесерыял «Метад Лаўровай».
**10.00** Мастацкі фільм «Ленінградская сімфонія».
**11.30** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Клон».
**14.05** Дак. фільм «Рэальны свет».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**16.10** Тэлесерыял «Суд».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Мастацкі фільм «Калі заквітнее багун».
**21.35** Скетч-шоў «МасГарСмех».
**22.30** Мастацкі фільм «Ленінградская сімфонія».
**00.10** Кубак Садружнасці-2014. Цырымонія адкрыцця турніру.
**01.45** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Украіна - Кыргызстан.
**03.20** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Расія - Малдова.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20, 12.35, 15.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Моўнік (лінгвістычная праграма): Пытаецеся – адказваем!
**10.50** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 4 серыя.
**11.40** «Cinema Komunisto», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**14.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.35** Аб'ектыў.
**15.20** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**15.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.15** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 4 серыя.
**17.00** «Cinema Komunisto», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**17.55** «Ранча», серыял: 37 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгода ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Адукацыя.
**22.25** «Дом», серыял: 20 серыя.
**23.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.50** Аб'ектыў.
**02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.35** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Адукацыя.

## 25 студзеня, субота

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.55** Існасць.
**07.20** Музычная камедыя «Цырк» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).
**11.30** Таямніцы следства.
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Здароўе.
**13.40** Журналісцкае расследаванне.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія).
**16.45** Даврай і правярай.
**17.15** Нашы.
**17.25** Фантастычная камедыя «Дарагая, я павялічыў дзіця» (ЗША).
**19.10** Прэм'ера! Меладрама «Вогнішча на снезе» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.40** Дэтэктыўны трылер «Крумкач» (ЗША).
**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.20** «Смак».
**11.00** «Ідэальны рамонт».
**11.55** «Разумніцы і разумнікі».
**12.40** Фільм «Вертыкаль».
**14.10** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Маленькая трагедыі. Камены госць».
**17.35** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Свая каляіна».
**23.00** Фільм «Дзесьці «.
**00.50-02.30** Фільм «Свет Кормана».

### ТВ

**06.30** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**08.00** «Анфас».
**08.15** Фільм «Вампіршы» (ЗША, 2011 г.).
**10.00** «Іншая краіна».
**10.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Два капітаны» (СССР, 1955 г.).
**14.30** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.30** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Механік» (ЗША, 2010 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.15** Фільм «Колькі ты каштуеш?» (Італія - Францыя, 2005 г.).
**00.55** «Глядзець усім!».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.35** Фільм-казка (СССР).
**09.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Беларуская кухня.
**10.35** Фантастычная драма «Двухсотгадовы чалавек» (ЗША-Германія).
**13.05** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**14.10** Вышэй за дах.
**14.45** Рамантычная камедыя «Я люблю праблемы» (ЗША).
**17.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.05** Імперыя песні.
**19.10** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоў-праграма «Супер-Інтуіцыя. Каханне» (Расія).
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Камедыя «Энцыклапедыя разводаў» (ЗША).
**22.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**23.35** Хакей для ўсіх.
**00.20** Хакей. КХЛ.

### БЕЛАРУСЬ 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Абіцель душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.05** Дзіцячы фільм. «Прыгоды Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 1-я і 2-я серыі.
**11.25** «Наперад у мінулае».
**11.50** «Калейдаскоп».
**12.00** «Вандроўкі пана Кандратовіча». Паэт Уладзімір Сыракомля.
**12.15** «Балада пра Свіцязь». Дак. фільм.
**12.40** «Гэты дзіўны свет. Чэслаў Немен «. Дакументальны фільм пра вядомага выканаўцу з Беларусі.
**13.15** «Слуцкія паясы». Дак. фільм пра гісторыю ўзнікнення слуцкіх паясоў.
**13.50** «Купала і Колас. Два яблыкі на адной галінцы». Дакументальны фільм.
**14.15** «Карані».
**14.45** «Полацк». Дакументальны фільм пра гісторыю горада.
**15.00** «Драўляны народ». Пра разьбяра, народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка.
**15.30** «Лёс. Сяргей Лазніца». Дак. фільм.
**16.00** VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Канцэрт.
**16.50** «Калейдаскоп».
**16.55** «Капітан Нэма». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**19.15** «Калейдаскоп».
**19.20** «Капітан Нэма». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Бацька-гаспадар».
**22.40** «Давід Ойстрах, народны артыст?» Дакументальны фільм пра яркага прадстаўніка савецкай скрыпічнай школы.
**00.00** «АРТиШОК».
**00.25** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Выратавальнікі».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** Прэм'ера. Дэтэктыў «Іржа».
**15.05** «ДНК». Ток-шоў.
**16.20** «Следства вялі...».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** «І зноў добры дзень!».
**18.25** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.55** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**22.00** Фільм «Ваўчыная выспа».
**23.45** Фільм «Вецер паўночны».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «Па сакрэце ўсяму свету».
**07.10** Мультфільмы.
**07.50** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.15** Праграма «Эксперыментатары».
**08.30** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Любімыя акцёры».
**09.35** Мастацкі фільм «Зімовы вечар у Гаграх».
**11.15** Мастацкі фільм «Калі заквітнее багун».
**14.35** Скетч-шоў «Мосгорсмех».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Амазонкі».
**19.35** Праграма «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.15** Мастацкі фільм «Юленька».
**22.15** Скетч-шоў «МасГарСмех».
**23.00** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Беларусь - Казахстан.
**00.35** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Кыргызстан - Таджыкістан.
**02.10** Мастацкі фільм «Сэрца маё - Астана».
**04.10** Праграма «Са свету па нітцы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.45** Зоры не спяць: Адукацыя.
**10.20** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.45** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**11.35** Два на два (тэледыскусія): Дзяржаўная адміністрацыя ў Беларусі.
**12.05** Асабісты капітал.
**12.25** Відзьмо-невідзьмо.
**12.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Эмілія Плятэр.
**13.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.35** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 1 і 2.
**14.00** «Лонданцы», серыял: 2 серыя.
**14.50** «Cinema Komunisto», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**15.40** «Час гонару», серыял: 69 серыя.
**16.30** «Дом», серыял: 20 серыя.
**18.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.15** ПраСвет.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**18.55** Моўнік (лінгвістычная праграма): Што такое суткі?
**19.05** Назад у будучыню.
**19.20** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 7 серыя.
**20.25** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс: «Бубачкі», маст. фільм, 2008 г., Чэхія.
**23.25** «Дзень шахтера», дак. фільм, 2010 г., Расія.
**01.25** Аб'ектыў.

## 26 студзеня, нядзеля

### 1 Беларусь

**07.25** Камедыя «Афоня» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**14.25** Медычныя таямніцы.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**16.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.05** Даверай і правярай.
**17.35** Прэм'ера! Рамантычная камедыя «Любоўны сплёт» (ЗША).
**19.10** Меладрама «Вогнішча на снезе» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Псіхалагічная драма «Незнаёмка» (Італія).
**00.05** Камедыйны серыял «СашаТаня» (Расія).

### АНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Вясельны перапалох».
**12.10** Камедыя «Волга-Волга».
**14.10** Фільм «Верныя сябры».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Пра старое добрае кіно».
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы комікаў».
**18.20** Новы год.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыханне планеты».
**21.40** Прэм'ера. «Кубак прафесіяналаў».
**00.00** Фільм «Пра каханне».

### СТВ

**06.15** Чатыры танкісты і сабака. Серыял.
**08.15** Фільм «Механік» (ЗША, 2010 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Елкі-палкі!» (СССР, 1988 г.).
**14.25** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера. «Чалавек-нефармат, ці 6:5 на карысць Задорнава».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Мінулай ноччу ў Нью-Ёрку» (ЗША - Францыя, 2009 г.).
**22.25** «Прафесійны бокс».
**23.40** Фільм «З шырока заплюшчанымі вачыма» (Вялікабрытанія - ЗША, 1999 г.).

### 2 Беларусь

**07.30** Фільм-казка (СССР).
**08.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.35** Тэлебарометр.
**09.40** Заўтра - гэта мы!
**10.05** Камедыя «Энцыклапедыя разводаў» (ЗША).
**11.50** «Аўтабатл». Аўтамабільнае ток-шоў.
**12.25** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**12.55** Трагікамедыя «Кур'ер» (СССР).
**14.35** Забаўляльная шоў-праграма «Супер-Інтуіцыя. Каханне» (Расія).
**15.45** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.55** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Матч за 3-е месца. Прамая трансляцыя.
**18.35** Суперлата.
**19.25** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.05** Спортлато 5 з 36.
**21.10** КЕНО.
**21.15** Навіны надвор'я.
**21.50** Рамантычная камедыя «Коткі-мышкі» (ЗША).
**23.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.45** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.00** «АРТиШОК».
**09.30** «Уладзімір Высоцкі. Беларускі след». Беларускія карані Уладзіміра Высоцкага.
**10.00** «Добры дзень, мае дарагія!». Франтавая перапіска Сяргея Пятровіча Каткова - мастака-педагога.
**10.30** «Карані».
**10.55** «Калейдаскоп».
**11.05** «Капітан Нэма». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.30** «Капітан Нэма». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**14.40** «Давід Ойстрах, народны артыст?» Дакументальны фільм пра яркага прадстаўніка савецкай скрыпічнай школы.
**16.00** Дзіцячы фільм. «Прыгоды Пятрова і Васечкіна, звычайныя і неверагодныя». 1-я і 2-я серыі.
**18.10** «Культпрасвет».
**18.40** Сусветнае кіно. «Бацька-гаспадар».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Народная артыстка». Творчы вечар народнай артысткі Беларусі Таццяны Мархель.
**21.50** «Незнаёмая песня». Кароткаметражны фільм.
**22.20** «Барвовая трава». Кароткаметражны фільм.
**22.50** «Культпрасвет».
**23.15** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.20** Дэтэктыў «Іржа».
**15.05** «Лепшы горад Зямлі».
**16.20** «Следства вялі...».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** «І зноў добры дзень!».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Дэтэктыў «Мсцівец».
**23.20** «Споведзь».
**00.20** «Школа зласлоўя».

### МИР

**05.00** Мультфільмы.
**06.25** Мастацкі фільм «Зімовы вечар у Гаграх».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Зямля і неба».
**09.35** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.00** Праграма «Прыгоды Македонскай».
**10.10** Мастацкі фільм «Танчы, танчы».
**12.45** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Я вярнуся».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Я вярнуся».
**00.10** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Беларусь - Латвія.
**01.45** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Казахстан - Узбекістан.
**03.20** Кубак Садружнасці-2014. Групавы этап. Літва - Расія.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.40** «Тры шалёныя нулі», серыял: 1 серыя.
**08.10** Зона «Свабоды».
**08.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): «Палюбіць Саладуху».
**09.30** Без рэтушы: «Абед», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**09.45** Рэпартэр.
**10.15** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**10.50** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Пацукі».
**11.15** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**12.05** «Тры шалёныя нулі», серыял: 1 серыя.
**12.35** Моўнік (лінгвістычная праграма): Што такое суткі.
**12.45** «Геркулес», дак. фільм, 2004 г., Польшча.
**13.15** «Геркулес выпраўляецца ў свет», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**14.10** «Парадокс», серыял: 3 серыя.
**15.00** «Бубачкі», маст. фільм, 2008 г., Чэхія.
**16.30** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 7 серыя.
**17.35** «Час гонару», серыял: 70 серыя.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Міхал Баброўскі.
**19.15** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.20** Дакументальная гадзіна: «Гатэль «Рай»», дак. фільм, 2010 г., Балгарыя.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Лютэр», маст. фільм, 2003 г., Германія–ЗША.
**23.20** Зоры не спяць: Адукацыя.
**01.00** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Заслаўе (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ЮБІЛЕЙ



# НЕПАТАПЛЯЛЬНЫ МАКАРАВІЧ

Алег НОВІКАЎ

**Жарсці вакол Еўрамайдана не перашкодзілі ўкраінскай грамадскасці адзначыць 10 студзеня 80-годдзе першага прэзідэнта Украіны Леаніда Макаравіча Краўчука.**

Увогуле, сваёй кар'ерай Краўчук, які ў савецкі час дасягнуў пасады чальца Палітбюро КПСС, у тым ліку абавязаны непрафесіяналізму спецслужбаў. Унукі Жалезнага Фелікса, якія, як вядома, былі вельмі пільнымі адносна ўсіх, хто пабываў на акупацыйнай тэрыторыі, праспалі шакуючы факт. У 1942 годзе газета «Валынь», якая выходзіла пад дахам акупацыйнай адміністрацыі ў Роўна, добрымі словамі адзначыла ўчынак 8-гадовага падлетка Леаніда Краўчука, які накалядаваў для Украінскага Чырвонага крыжа (грамадская арганізацыя пры руху бандэраўцаў) аж 40 карбаванцаў. Калі б пра гэта своечасова даведаліся ў КДБ, думаецца, далей за кіраўніка райкаму або прафкаму Краўчук наўрад ці б прайшоў.

На шчасце для Макаравіча, пра яго мінулае стала вядома, толькі калі СССР ужо не было, а сам Краўчук выглядаў як фігура гістарычнага маштабу. Не толькі таму, што ўвайшоў у гісторыю як першы прэзідэнт Украіны (дарэчы, больш, чым ён, падтрымкі на выбарах ніводны з наступных украінскіх гарантаў не атрымліваў). Некаторыя гісторыкі лічаць, што менавіта Краўчук схіліў Ельцына падпісаць славутыя Белавежскія пагадненні. Грамадскасць яшчэ пры жыцці прызнала заслугі Леаніда Макаравіча. Адну з вуліц у цэнтры Кіева так і назвалі — «Вуліца першага прэзідэнта Украіны Леаніда Краўчука».

Збіраліся гучна адзначыць у гэтым годзе і юбілей бацькі ўкраінскай незалежнасці. Яшчэ ў верасні на спецыяльным пасяджэнні Кабмін прыняў праграму святкавання. Акрамя рознага кшталту канферэнцый, планавалася выпуск спецыяльнай маркі і нават манеты са срэбра з выявай Краўчука. Палітычныя катаклізмы апошніх месяцаў прымусілі падкарэктаваць планы. Самай буйной падзеяй у рамках урачыстасцяў стала спецыяльная выстава. Акрамя таго Януковіч уручыў Краўчуку ордэн Свабоды «за выдатны асабісты ўклад у пабудову ўкраінскай дзяржавы і шматгадовую плённую грамадска-палітычную дзейнасць».

Яшчэ ўчора на гэта не звярнулі б увагу. Аднак цяпер градус палітычнай палярызацыі ва Украіне зашкальвае. Тое, што Краўчук пагадзіўся прыняць узнагароду з рук чалавека, які для Еўрамайдану сімвалізуе рэакцыю, насцярожыла дэмакратаў. У выніку ў прэсе і на інтэрнэт-форумах пачалася дыскусія адносна месца юбіляра ў гісторыі.

Напэўна, самы цікавы пункт палемікі — ці магла Украіна дабіцца незалежнасці, калі б падчас перабудовы лідарам КПУ быў чалавек, які не меў якасцяў Леаніда Краўчука? Сведкі падзей мяжы 1980–1990-х кажуць, што ў такім выпадку гісторыя развівалася б інакш. Краўчук праявіў сябе як функцыянер, здольны слухаць апанентаў і развівацца як палітык за кошт атрыманай ад іх інфармацыі. Гэта дапамагло апаратчыку (дарэчы, ён быў правай рукой вельмі кансерватыўнага кіраўніка КПУ Уладзіміра Шчарбіцкага) стаць медыятарам паміж дыяметральнымі палітычнымі рухамі і часткамі грамадства, якія яны прадстаўлялі. Стыль Краўчука, на думку шмат каго, дазволіў Украіне без сур'ёзных унутраных канфліктаў выйсці са складу СССР.

Дапамагла яму і фантастычная палітычная кан'юнктурнасць. Хрэстаматыйнай з'яўляецца сцэна ўдзелу Краўчука ў адным з першых з'ездаў Народнага Руху. Краўчук, які прыйшоў на пасяджэнне як назіральнік, атрымаў ад арганізатараў жоўта-сіні значак, які адразу на радасць прысутным прычапіў на пінжак. Аднак як толькі пачалася афіцыйная частка, госць зняў пінжак, паколькі, быццам, у памяшканні было занадта спякотна. Гэты краўчукоўскі стыль стаў яго візітоўкай. Не дарма за ім замацавалася мянушка «Ліс». Схільныя да метафараў журналісты назвалі Краўчука чалавекам, якому не патрэбны парасон, паколькі ён здольны ўхіляцца ад кропель дажджу.

Нягледзячы на такі палітычны нюх, Краўчук ніколі не прагнуў улады дзеля ўлады. У 1994 годзе ён пагадзіўся на датэрміновыя выбары, якія прайграў Леаніду Кучму. Дарадчыкі тады прапаноўвалі Краўчуку аспрэчваць вынікі галасавання. Аднак ён прызнаў паразу, заклаўшы такую важную аснову палітычнай культуры Украіны, як мірная перадача ўлады. Нонсэнс для большасці постсавецкіх рэспублік.

Што тычыцца негатыву, то яго на адрас Краўчука значна больш. Перш за ўсё, натуральна, узгадваюць эканамічны калапс і замарожванне ўкладаў. Шмат хто лічыць, што лепшым народным помнікам курсу яго адміністрацыі стала «краўчучка» — сумка, якая прымацоўваецца да калаў. Гэта сумка стала сімвалам выжывання мільёнаў людзей, што з-за развалу эканомікі падаліся ў малы бізнэс… Праўда, з часам, калі Украіна стала эканамічна ажываць, слова «краўчучка» стала хутчэй сімвалізаваць эпоху першапачатковага накаплення капіталу. У Кіеве нават можна наткнуцца на помнік «краўчучцы».

Няздольнасць Краўчука ў 1990-я гады затармазіць працэсы развалу гаспадаркі і, адпаведна, сацыяльнай дэградацыі спрыяла росту крыміналу і палітычнай маргіналізацыі вялікай часткі ўкраінцаў, якімі з часам пачалі лёгка маніпуляваць алігархі і папулісты. Дадатковыя прэтэнзіі на адрас Краўчука — развал Чарнаморскага флоту, адмова ад ядзернай зброі. Частка рускамоўных лічыць Макаравіча ініцыятарам нездаровай палітызацыі царкоўнага жыцця, што прывяло да расколу ўкраінскай праваслаўнай грамады.

Што да дэмакратаў, то ім характэрна супрацьпастаўляць Краўчука 1980-х — першай паловы 1990-х і Краўчука пазнейшага. Позні Краўчук асацыюецца ў іх з адным са стваральнікаў сістэмы Кучмы, спадарожнікамі якой ёсць цэнзура, ціск на апазіцыю, палітычная карупцыя. Сам Краўчук у 1998 годзе запісаўся ў вядучую пракучмаўскую партыю аб'яднаных сацыял-дэмакратаў. Такая траекторыя каштавала яму апошніх рэштак даверу з боку дэмакратычнай супольнасці. На выбарах 2006 года эсдэкі атрымалі смешныя два з лішкам працэнты, пасля чаго Краўчук заявіў пра сыход з палітыкі. Хутка ён папоўніў вялікі лагер незалежных палітычных і праравых аналітыкаў.

Важна адзначыць, што пры ўсім негатыве да Краўчука, стаўленне да яго ў народа спакойнае. Леанід Краўчук — адзіны з чатырох украінскіх прэзідэнтаў, які можа без целаахоўнікаў спакойна выходзіць з дому.

Цяперашні палітычны крызіс даў шанс Краўчуку вярнуцца ў вялікую палітыку. Прыкладна ў сярэдзіне снежня быў арганізаваны круглы стол «Аб'яднаем Украіну». На ім прысутнічалі прэзідэнт Януковіч і яго папярэднікі, лідары апазіцыі. Аднак вядучым па сутнасці быў Краўчук. Ён старанна спрабаваў шукаць кампраміс, і быццам намацаў глебу для згоды. Леанід Макаравіч прапанаваў падпісаць з ЕС палітычны блок Дамовы пра Асацыяцыю, а эканамічны — яблыка разладу паміж уладай і апазіцыяй — пакінуць на разгляд. Хаця з-за абвастрэння сітуацыі наступны раунд круглага сталу не адбыўся, яго працяг не выключаны. Таму, думаецца, палітычная біяграфія цяперашняга юбіляра яшчэ не закончылася.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Улада зрабіла ўсё для таго, каб выбары ішлі па яе сцэнары. Апошнія папраўкі ў выбарчае заканадаўства, якія ўступілі ў сілу ў снежні 2013 года, — не выключэнне. Напрыклад, патрабаванне ўказваць крыніцы існавання для беспрацоўных і ўсё судзімасці, нават пагашаныя, — магутная зброя для дыскрэдытацыі прадстаўнікоў апазіцыі, якіх пастаянна за што-небудзь судзяць і нікуды не бяруць на працу. Складана выканальная для іх і праграма самафінансавання агітацыйнай кампаніі, бо апазіцыі наўрад ці нехта дасць грошы на яе правядзенне, бо ў гэтым выпадку любое прадпрыемства або арганізацыя апынуцца пад пагрозай закрыцця, а ўласныя рэсурсы беларускай апазіцыі вельмі абмежаваныя. Выбарчы працэс у Беларусі дыскрэдытаваны, а першыя этапы кампаніі ў мясцовыя саветы ўжо паказалі, што роўныя ўмовы для праўладных і апазіцыйных кандыдатаў у дэпутаты зноў не будуць створаны.

**«Независмая» Газета (Расія)**

На думку экспертаў, у 2014 годзе працэсы, што праходзілі ў 2013 годзе, атрымаюць працяг. Урад Беларусі не зможа пераадолець негатыўныя тэндэнцыі, але нават у сітуацыі абвастрэння сацыяльнай абстаноўкі беларусы абяруць негвалтоўныя формы пратэсту. Адстаўкі асобных чыноўнікаў, і нават Саўміна ў цэлым, паводле ацэнак экспертаў, не дазволяць перакласці на іх адказнасць за няўдачы дзяржкіравання, якія, як і поспехі, у грамадскай свядомасці, трывала атаясамліваюцца з «адзіным палітыкам».

**«REGNUM» (Расія)**

Для прэзідэнта Лукашэнкі Беларуска-кітайскі тэхнапарк — спосаб пакінуць памяць пра тое, што ў яго прэзідэнцтва ў краіне было пабудавана нешта сапраўды значнае, акрамя аграгарадкоў і лядовых палацаў, якія пачалі набіваць аскому мясцоваму электарату як прыклад неэфектыўных марнаванняў грошай. Першая глабальная будоўля прэзідэнта — сталічны фінансавы цэнтр «Мінск-сіці», які ў свае лепшыя часы ацэньваўся ў 30 мільярдаў долараў, адышоў у нябыт пасля сыходу расійскага інвестара.

**«Коммерсант» (Украіна)**

Шматлікія беларускія эксперты кажуць, што прызначэнне этнічнага рускага на пасаду беларускага мітрапаліта з'яўляецца неаімперыялістычнай экспансіяй... Палітыкай Расійскай Праваслаўнай Царквы незадаволены нават прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які шмат разоў называў праваслаўную царкву галоўным ідэолагам дзяржавы. Прыкладна паўгода таму беларускі прэзідэнт дэманстратыўна адмовіўся ад удзелу ў кіеўскіх урачыстасцях з нагоды 1025-годдзя хрышчэння Русі. Тады некаторыя расійскія эксперты сцвярджалі, што падставай для адмовы былі супярэчнасці Лукашэнкі з Маскоўскім патрыярхатам па пытаннях кіраўніцтва Беларускай Праваслаўнай Царквой. Цяпер сітуацыя не змянілася.

**«Rzeczpospolita» (Польшча)**

Пагаршэнне сітуацыі ў суседняй Беларусі прымушае літоўскіх будаўнікоў задумвацца аб пошуку іншых рынкаў. Беларусі патрэбныя грошы, трэба браць у доўг, але не ўдаецца ўзяць у Захаду. Міжнародны валютны фонд не схільны пазычаць. А Расія таксама не спяшаецца. Калі грошы не будуць атрыманыя, застаецца два выйсця: банкруцтва, на што Беларусь дакладна не пойдзе, або дэвальвацыя валюты, што яна рабіла ўжо некалькі разоў. Вядома, ёсць надзея, што яна атрымае крэдыт ад Расіі, так, як і Украіна. Але рызыка застаецца. Беларусь ужо не такая прывабная краіна для будаўніцтва і іншых сектараў.

**«DELFI» (Літва)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ПУЦІН НЕ ДАПУСЦІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ШАТЛАНДЫІ



Шатландская газета «The Herald» апублікавала сенсацыйны матэрыял. Калі яму верыць, урад Дэвіда Кэмерана звярнуўся да расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна з просьбай аказаць падтрымку ў канфлікце з Шатландыяй па пытанні яе выхаду са складу Злучанага Каралеўства. Справа ў тым, што ў гэтым годзе Расія ўзначальвае Вялікую васьмёрку. У гэтым жа годзе павінен адбыцца рэферэндум аб незалежнасці Шатландыі. У выпадку, калі шатландцы абяруць дзяржаўнасць, можа ўзнікнуць патавая сітуацыя, калі вялікую ролю могуць згуляць міжнародныя структуры, у тым ліку Вялікая васьмёрка. Алекс Салманд, лідар шатландскіх сепаратыстаў і прэм'ер Шатландыі, ужо абвінавапіў Лондан у несумленнай палітычнай гульні. «Гэтая інфармацыя пра ролю Расіі падымае сур'ёзныя пытанні аб закулісная тактыкі ўраду Вялікабрытаніі, калі гэта не хлусня, то Вестмінстэр быў злоўлены з доказамі злачынства. У Лондане спрабуюць выклікаць варожасць адносна Шатландыі, замест таго, каб прадстаўляць інтарэсы Шатландыі», — сказаў Алекс Салманд. На думку шмат каго, пакт Пуцін-Кэмеран можа значыць уцягванне Вялікабрытаніі ў гульні Масквы супраць ЕС. У гэтай сувязі Брусэль заклікаюць не быць пасіўным адносна шатландскага праекту. Тым больш, што Салманд, у адрозненні ад Кэмерана, выступае за развіццё працэсу еўраінтэграцыі, часткай якога ён бачыць незалежную Шатландыю.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КАНАДА. ГЕРМАНІЯ АРГАНІЗАВАЛА ГЕНАЦЫД АРМЯН

Канадская няўрадавая акадэмічная ўстанова «Zoryan Institute» апублікавала працу «Армянскі генацыд: дакументы нямецкага міністэрства замежных спраў 1915–1916 гг.», у якой сцвярджаецца, што армянскі пагром 1915 года ў асманскай Турцыі, ахвярамі якога сталі 5 мільёнаў чалавек, быў у тым ліку арганізаваны нямецкімі дыпламатамі і шпіёнскай агентурай Берліну. Падставамі для такой версіі стала перапіска нямецкага пасла ў Канстанцінопалі са сваім кіраўніцтвам у Берліне. Так, у лісце ад 7 снежня 1915 года паведамляецца: «Каб вырашыць армянскае пытанне, мы інспіравалі страх сярод турэцкага ўраду». У другім лісце аўтар лічыць, што ўцягванне турак у тэрор супраць армян назаўсёды прымусіць іх заставацца ў лагеры саюзнікаў Германіі. У першых рэцэнзіях на публікацыю нямецкая прэса прызнае, што прадстаўлены відавочныя доказы пра дачыненне Германіі да арганізацыі армянскага генацыду. Гэта, у сваю чаргу, ставіць пытанне пра магчымае патрабаванне афіцыйнага прызнання Германіяй адказнасці за армянскія пагромы 1915 года. Армянская грамада пакуль такое пытанне не ставіць. Таксама не выключана, што тэзісы кнігі будуць аспрэчаны.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. КРАІНУ ПЕРАЙМЯНУЮЦЬ, КАБ НАСАЛІЦЬ ІРАНУ

5 студзеня дэпутат іранскага парламенту Асман Ахмадзі (этнічны курд) прапанаваў сфармаваць новую правінцыю «Паўночны Курдыстан». Паводле яго прапановы, сталіцай гэтай правінцыі павінен стаць Махабад — пераважна курдскі горад у іранскай правінцыі Заходні Азербайджан. Ініцыятыва рэзка абвастрыла адносіны Ірана з Азербайджанам. Афіцыйны Баку супраць такіх планаў, падазраючы, што за імі хаваецца намер шантажу іранскіх азербайджанцаў, якія апошнім часам больш актыўна выступаюць за аўтаномію ў складзе Ірану. Найбольш гарачыя галовы ў Баку лічаць, што змены адміністратыўных межаў Заходняга Азербайджану вымушаюць Азербайджан пайсці на рашучы крок, а менавіта перайменаваць Азербайджан у Паўночны Азербайджан, што будзе выразна значыць тэрытарыяльныя прэтэнзіі на адрас паўднёвага суседа. Афіцыйны Тэгеран, у сваю чаргу, кажа, што нічога дзіўнага ў заяве Ахмадзі няма. У апошнія месяцы ў Іране шмат кажуць аб магчымым стварэнні цэлых 10 новых правінцый. У цяперашні час у Іране існуе 31 правінцыя. З 2004 года было створана чатыры новых правінцыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### МАЛДОВА. ГАГАУЗІЯ НЕ ХОЧА Ў ЕЎРОПУ

Генпракуратура Малдовы распачала крымінальную справу ў сувязі з намерам кіраўніцтва Гагаузіі (цюркская аўтаномія на поўдні краіны) правесці рэферэндум «аб знешнепалітычных перавагах насельніцтва рэгіёну». Як вядома, улады Гагаузіі спрабуюць даведацца, як людзі глядзяць на інтэграцыю з Еўрасаюзам (да якой імкнуцца цэнтральныя ўлады Малдовы) і на інтэграцыю з Мытным саюзам. У прынцыпе, з улікам прамаскоўскай пазіцыі лідараў краю, вынікі плебісцыту відавочныя. У сваю чаргу, дзеянні рэгіянальнай улады генпракуратура Малдовы расцаніла як «самаўпраўства» ў бюджэтнай сферы. Грошы на правядзенне рэферэндуму плануецца вылучыць з бюджэту Гагаузіі. А гэта, на думку пракуратуры, не што іншае, як «прычыненне шкоды ў асабліва буйных памерах» . Але, па словах адна з дэпутатаў Народнага сходу (парламент Гагаузіі), прызначаны ў Гагаузіі на 2 лютага рэферэндум абавязкова адбудзецца, нягледзячы ні на якія крымінальныя справы. Больш за тое, у Гагаузіі ўжо гучаць заклікі да выхаду са складу Малдовы і аднаўлення ўласнай незалежнай рэспублікі, якая дэ-факта існавала тут у 1990–1994 гадах.

**Паводле малдаўскай прэсы**

ГАДАВІНА

# ВАЙНА ЗА ВАЙНУ




**Алег НОВІКАЎ**

**Стогадовая гадавіна першай сусветнай вайны стане яшчэ адным сур'ёзным выклікам еўрапейскаму адзінству.**

Неяк Ангела Меркель заявіла, што крызіс еўразоны ёй нагадвае апошнія дні перад пачаткам Першай сусветнай вайны. На думку канцлера ФРГ, паводзіны цяперашніх еўрапейскіх эліт вельмі падобныя на ўчынкі лідараў сто год таму. Яны ўпарта адмаўляюцца прызнаць, што катастрофа набліжаецца і трэба прымаць меры. Вынікам такой палітыкі, па словах канцлера, можа стаць тое, што «еўра проста выбухне ў паветра».

Журналісты лічаць, што канцлер мае рацыю. Кідаецца ў вочы нежаданне ўрадаў краін ЕС прызнаць, што іх эканоміка рана ці позна выбухне. Больш таго, эпапея выратавання еўразоны шмат каго з палітыкаў настолькі дастала, што некаторыя жадаюць, каб гэта хутчэй скончылася. Нечым гэта нагадвае калектыўныя настроі ў Еўропе напярэдадні 1 жніўня 1914 года. Не дарма Томас Ман пісаў, што тая вайна была ўспрынята яго генерацыяй як «вызваленне» ад усіх былых праблем і трывог.

Як і сто год таму, у шматлікіх краінах Еўропы зашкальвае нацыяналізм. Дыктат Брусэля і Берліна, які ўплывае на эканамічную палітыку ЕС, выклікае ў краінах адваротную рэфлексію, якая набывае германафобскі прысмак, як у 1914-м. Нямецкае выданне «Der Spiegel» канстатуе: «У 2014-м мы ўсе даведаемся пра тое, што акрамя немцаў і так усе ведаюць. Няма ніякага агульнаеўрапейскага гістарычнага кансэнсусу, няма ніякай агульнай ідэі Еўропы сярод народаў, якія на роўных правах заключылі саюз. Першая сусветная вайна, якая пачалася 100 гадоў і скончылася 96 гадоў таму, да гэтага часу разглядаецца і ацэньваецца выключна з нацыянальнага пункту гледжання. Гэта можа быць кепска, і, магчыма, такі падыход будзе мяняецца, але трэба прызнаць, што цяпер гэта тое, што мы маем».

Адсутнасць кансенсусу ў поглядзе на гісторыю Першай сусветнай вайны значыць, што юбілей будзе выкарыстаны нацыяналістамі, якія патрабуюць замарожвання працэсу еўраінтэграцыі. Еўраскептыкі ўжо спрабуюць рабіць піяр на Першай сусветнай вайне. Не так даўно Майкл Гоў (Michael Gove), брытанскі міністр адукацыі ва ўрадзе кансерватараў, выступіў з незвычайнай заявай. Ён раскрытыкаваў шэраг кіна- і тэлетвораў, прысвечаных Першай сусветнай вайне. На яго думку, гэтыя фільмы перакручваюць той факт, што для Вялікабрытаніі Першая сусветная была справядлівай вайной супраць пагрозы нямецкага дамінавання».

Як не смешна, аднак найбольш ад міністра дасталася Містэру Біну, а дакладней, славутаму актору Роўэну Аткінсану. Гэты комік таксама вядомы як выканаўца галоўнай ролі ў серыяле «Чорная гадзюка». Гэта серыял пра прыгоды ў розных гістарычных эпохах антыгероя Эдмунда Блэкэдэра, ролю якога выконвае Аткінсан. Падзеі чацвёртай часткі праходзяць у траншэях Першай сусветнай вайны, недзе ў Фландрыі, дзе Блэкэдэр — пяхотны афіцэр брытанскага экспедыцыйнага корпусу. Сюжэт амаль усіх серый чацвёртага сезона круціцца вакол плану рашучага наступу на нямецкія пазіцыі, які вось-вось павінен пачацца. Герой Роўэна Аткінсана рознымі сродкамі супраціўляецца спробам даслаць яго на верную гібель — штурм варожых пазіцый. Пры гэтым высмейваецца як брытанскі патрыятызм, так і сама армія і вайна.

Нягледзячы на тое, што «Чорная гадзюка» лічыцца класікай брытанскай камедыі (16-е месца ў спісе самых смешных камедыйных серыялаў у гісторыі), Майкл Гоў называе серыял «ганебным» і «антыпатрыятычным». Па словах чыноўніка, падчас святкавання юбілею Вялікай вайны толькі «заўзятыя цынікі могуць казаць пра тое, што брытанскія салдаты былі ідыётамі, паколькі дазволілі даслаць сябе ў бой».

Інтарэс да нацыяналістычнай міфалогіі Першай сусветнай вайны расце і ў Германіі. Тут бестселерам стала кніга аўстралійскага гісторыка Крыстафера Кларка «Лунацікі», якая спрабуе дакапацца да адказу на пытанне, як еўрапейскія эліты дазволілі выбухнуць такому глабальнаму і, як высвятляецца зараз, шмат у чым штучнаму канфлікту?

Увогуле, кніга напісаная для брытанскага чытача і з'яўляецца правакацыяй супраць мясцовай артадаксальнай гістарыяграфіі. Яе змест разбурае папулярны ў Англіі міф пра тое, што Вялікабрытанія, у адрозненні ад Германіі, не нясе ніякай адказнасці за развязанне той вайны. Аўтар «Лунацікаў» абараняе тэорыю пра тое, што краіны Антанты таксама былі ў 1914-м далёка не белыя і пухнатыя. Так, ён звяртае ўвагу на канфлікт Расіі і Англіі ў Персіі і на межах Індыі. На яго думку, не Берлін, а Лондан у выніку справакаваў вайну, паколькі хацеў адцягнуць інтарэс Расійскай імперыі ад праекту выхаду да Індыйскага акіяну.

**Адсутнасць кансенсусу ў поглядзе на гісторыю Першай сусветнай вайны значыць, што юбілей будзе выкарыстаны нацыяналістамі, якія патрабуюць замарожвання працэсу еўраінтэграцыі**

У Вялікабрытаніі кніга чамусьці шуму не нарабіла. Затое ў Германіі яна карыстаецца вялікім попытам. Прычына інтарэсу перш за ўсё палягае ў тым, што такая версія супярэчыць прынятай на афіцыйным узроўні ў ФРГ канцэпцыі т. зв. «Догмы віны». Адпаведна ёй, аўтарам Першай сусветнай былі немцы, і таму для немцаў ганебны Версальскі мір не можа разглядацца як нешта брутальнае. З такой пазіцыі ў ФРГ была атакаваная нацысцкая прапаганда, якая будавалася менавіта на тэзісе пра тое, што немцы як зняважаная Версалем нацыя мелі права выступаць супраць тагачаснага ўстрою Еўропы.

Аднак наўрад ці поспех «Лунацікаў» у Германіі звязаны з незвычайнай для немцаў трактоўкай гісторыі. Відавочна, сваю ролю згуляў рост нацыяналізму, які, як правіла, носіць характар крытыкі эканамічнага курсу кабінетаў Ангелы Меркель. Нямецкія бюргеры лічаць, што за іх падаткі на халяву жывуць грэкі, іспанцы і іншыя народы краін ЕС, якія пацярпелі праз крызіс сваіх эканомік. Аргументуючы такую опцыю, нямецкія правыя таксама праводзяць паралелі з Першай сусветнай вайной.

«У сваёй кнізе аб пачатку Першай сусветнай вайны аўстралійскі гісторык Крыстафер Кларк называе палітыкаў 1914-га «нашы сучаснікі». Яны ведалі, што гулялі з агнём, і ўсё ж яны спрабавалі выкарыстаць небяспечныя рэчы для іх уласнай выгады. Так паводзяць сябе і тыя, хто адказвае за выратаванне еўра. Ангела Меркель, на першы погляд, не ёсць увасабленнем Вільгельма Другога, аднак яе знешнасць зманлівая. Як калісьці кайзер, Меркель гуляе ў рызыкоўную гульню, у выніку якой немцы могуць страціць не менш, чым страцілі ў Першай сусветнай», — піша «Junge Freiheit».

Відавочна, што прыхільнікам еўраінтэнграцыі апературна патрэбна свая канцэпцыя, якая не дазволіць еўраскептыкам інструменталізаваць 100-ю гадавіну пачатку Першай сусветнай вайны. Больш-менш яна нават зразумелая. Як адзначае «Der Spiegel», урок Першай сусветнай вайны — у тым, што з-за адсутнасці адзінства ў той вайне згубіла ўся Еўропа.

ЗАКОН

# КАНЕЦ СЕПАРАТЫЗМУ

Алег НОВІКАЎ

**Ліберaлы і грамадскасць нацыянальных аўтаномій Расіі абураныя новым Законам аб забароне прапаганды сепаратызму.**

Літаральна за лічаныя гадзіны да бою курантаў Пуцін зрабіў усім малым народам Расіі «навагодні падарунак» — падпісаў «Закон аб крымінальнай адказнасці за прапаганду сепаратызму».

Закон прадугледжвае пакаранне за распаўсюд у любой форме поглядаў, ідэй заклікаў ці агітацыі з мэтай паставіць пад сумнеў тэрытарыяльную цэласнасць Расіі. Артыкулам асобна прадугледжваецца выпадак, калі падобнага кшталту правапарушэнні будуць ажыццяўляцца прадстаўнікамі СМІ.

Тым расійскім грамадзянам, якія цяпер скажуць нешта супраць «адзінай і непадзельнай», не пазайздросціш. Іх чакаюць штраф, прымусовыя працы або пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да пяці гадоў. Праўда, тут аўтары закону праявілі нябачаны гуманізм. У першым варыянце законапраекту прапаноўвалася даваць сепаратыстам да дваццаці гадоў (гэта, дарэчы, больш, чым могуць даць нават за забойства). Аднак некаторым і гэтага падалося мала. «За заклікі да парушэння тэрытарыяльнага адзінства Расіі трэба даваць пажыццёвы тэрмін», — заявіла сустаршыня аддзялення пуцінскага Агульнарасійскага народнага фронту (АНФ) у Амурскай вобласці Жакеліна Арлова.

Закон быў прыняты ў сярэдзіне снежня з падачы групы дэпутатаў розных фракцый, хаця яго застрэльшчыкамі выступілі камуністы. «Нават слоўныя заклікі да падзелу адзінай і непадзельнай Расіі будуць карацца турэмным зняволеннем», — горда сказаў Зюганаў.

У грамадстве нямала крытыкаў праекту. Яны лічаць, што Закон аб барацьбе з прапагандай сепаратызму (дарэчы, у народзе яго ўжо празвалі «Закон про расчлененку») супярэчыць свабодзе слова. Не дарма заканадаўчая ініцыятыва караць сепаратыстаў узнікла як непасрэдная рэакцыя на фразу, якую сказала 15 кастрычніка ў эфіры радыёстанцыі «Эхо Москвы» галоўны рэдактар часопіса «The New Times» Яўгеніяй Альбац: «Нічога страшнага не бачу ў тым, калі Расія падзеліцца па Уральскім хрыбце».

«Істэрыка з нагоды сепаратызму — гэта чарговае звяно ў ланцугу, якую шалёны прынтар накідвае на рэшткі свабоды ў Расіі. Забароны множацца на самых розных нагодах, і справа зусім не ў канкрэтных, нібыта небяспечных для дзяржавы словах і развагах, а ў стварэнні універсальнай сістэмы падаўлення свабоды слова», — піша ліберальны партал «Грани».




**Некаторыя арганізацыі нацыянальных меншасцяў вырашылі аспрэчыць закон праз міжнародныя інстанцыі. Так, Савет аксакалаў башкір накіраваў зварот у офіс ААН**

Пратэстуюць і ў аўтаноміях. Тут закон крытыкуюць за тое, што яго змест супярэчыць артыкулу 5 Канстытуцыі РФ, згодна з якім за народамі Расіі прызнаецца права на самавызначэнне. «Да прапаганды сепаратызму могуць быць аднесены думкі і перакананні на карысць права народаў на самавызначэнне, выяўленыя публічна; да сепаратысцкіх матэрыялаў — Статут ААН, Дэкларацыя ААН аб правах карэнных народаў і іншыя дакументы, якія змяшчаюць палажэнні аб праве народаў на самавызначэнне; да сепаратысцкіх рухаў — нацыянальныя грамадскія аб'яднанні, якія абараняюць правы карэнных народаў», — гаворыцца ў заяве адной з татарскіх грамадскіх арганізацый.

Некаторыя арганізацыі нацыянальных меншасцяў вырашылі аспрэчыць закон праз міжнародныя інстанцыі. Так, Савет аксакалаў башкір накіраваў у офіс ААН зварот, у якім адзначаецца, што закон пагоршыць становішча карэнных народаў Расійскай Федэрацыі, сярод якіх ёсць і башкірскі народ. «Па сутнасці замацаваны ў Законе прынцып тэрытарыяльнага адзінства РФ гарантуе немагчымасць выхаду суб'екта Расійскай Федэрацыі з яе складу, што супярэчыць прынцыпу федэралізму», — пішуць башкіры.

Шмат хто лічыць, што закон ёсць наступным крокам у бок змены Канстытуцыі, у выніку чаго нацыянальна-тэрытарыяльныя аўтаноміі цалкам ліквідуюць. Малым народам прапануюць задавальняцца нацыянальна-культурнай аўтаноміяй.

Прыхільнікі закона сапраўды мысляць у такой парадыгме. На адным з патрыятычных сайтаў гаворыцца: «Крытыкі трактуюць сепаратызм выключна як дзейнасць па дэзінтэграцыі дзяржаўнай тэрыторыі, а між тым сепаратызм уяўляе сабой больш складаную з'яву. Як навуковая катэгорыя, сепаратызм уключае ў сябе такія паняцці, як сецэсіянізм, так і аўтанамізм. Прыхільнікі сецэсіянізму імкнуцца да выхаду тэрыторыі са складу існуючай дзяржавы, а прыхільнікі аўтанамізму — да павышэння ступені яе аўтаноміі. Аднак і адно і другое лічыцца сепаратызмам у сучасных навуковых катэгорыях».

Выступілі супраць і этнічныя расіяне, якія дамагаюцца, каб іх рэгіёны атрымалі большую самастойнасць ад Масквы. Самай рэзанансай акцый стаў зварот сібірскага аўтанаміста Міхаіла Кулехава з Якутску. 9 студзеня ён звярнуўся ў Канстытуцыйны суд Расійскай Федэрацыі з нагоды прынятага закону. На думку сібірака, выраз «публічныя заклікі» неканкрэтны, і можа трактавацца ў тым ліку «як забарона выказваць сваё меркаванне па якім-небудзь пытанні».

Магчыма, грамадскасць хвалюецца дарма. На інтэрнэт-форумах сцвярджаюць, што Закон аб сепаратызме — чарговы шэдэўр заканатворцаў, які ніколі не будзе рэалізаваны. Сапраўды, у Дзярждуме гэтага склікання нараджаецца мноства заканадаўчых актаў, якія пазней даводзіцца карэктаваць або ніколі не выкарыстоўваць на практыцы.

Магчыма, такі лёс чакае і закон аб сепаратызме, які не ідэальны і можа быць выкарыстаны як заўгодны. Вось які рэцэпт, напрыклад, з'явіўся днямі ў сецыве: «Дзякуючы закону аб сепаратызме можна лёгка атрымаць прытулак на Захадзе. Такім чынам, едзеш як турыст у тую ж Фінляндыю, каб пачаць з яе тэрыторыі актыўна прапагандаваць у інтэрнэце (пажадана, у форме адкрытых лістоў у Следчы камітэт) вяртанне Фінляндыі ўсіх земляў, адабраных у яе ў выніку злачыннай агрэсіі СССР. А таксама перадачу ёй Мурманска, Пецярбурга і ўсіх сродкаў рэзервовага фонду ў якасці кампенсацыі за семдзясят гадоў акупацыі і разбурэнне лініі Манхэргейма (чым больш шалёна пісаць, тым больш прадстаўнікоў пуцінскай «грамадскасці» раз'юшацца і напішуць на цябе данос). Пасля чаго спакойна чакаеш абураных заклікаў «пакараць здрадніка і сепаратыста» і ўзбуджэння крымінальнай справы, каб папрасіць палітычны прытулак па месцы знаходжання. Не зможа ж Фінляндыя выдаць крывавай гэбні свайго палымянага патрыёта!»

Што на самай справе атрымаецца з новага крыжовага паходу супраць сепаратыстаў у Расіі, мы даведаемся, напэўна, бліжэй да лета. Новы закон уступіць у сілу 9 мая 2014 года.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЯКАБ ЗУМА



Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР), лідар партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC), выступаючы ў сваёй роднай вёсцы на поўначы краіны, заявіў, што ў часы барацьбы супраць апартэіду ён практыкаваў магію. Магія, па яго словах, дапамагала яму змагацца з бурамі (нашчадкі каланістаў з Еўропы). Непасрэдна розная кшталту заклінанні, быццам, дапамаглі Якабу сыходзіць ад пераследу паліцыі. Вядома, што да перамогі дэмакратыі Зума працаваў у падполлі і адказваў за камунікацыю падпольных мілітарных асяродкаў ANC. Тое, што палітык дазваляе сабе такія заявы, аналітыкі звязваюць з цяжкім станам яго партыі напярэдадні хутікх парламенцкіх выбараў. Папулярнасць ANC падае з-за серыі карупцыйных скандалаў, да якіх мае дачыненне прэзідэнт (апазіцыя сцвярджае, што Зума за час прэзідэнцтва скраў з бюджэту мінімум 10 мільярдаў долараў). Каб неяк вярнуць падтрымку чорнага электарату, ANC актыўна выкарыстоўвае расісцкую фразеалогію. Заява пра тое, што з дапамогай чараў ён перамог апартэід, з той жа серыі. Аналітыкі лічаць, што калі партыя Зумы збярэ на выбарах 60 працэнтаў, гэта будзе цуд.

### ДАРЫГА НАЗАРБАЕВА



Дачка Елбасы, дэпутат парламента, наведала сумнавядомую Чуйскую даліну — культавае месца ўсіх наркаманаў былога СССР. Паводле афіцыйных дадзеных, дзікія каноплі растуць тут на 130 тысячах гектараў. Яшчэ ў савецкія часы аматары «траўкі» ехалі сюды за дозай, што прымусіла дзяржаву стварыць адпаведныя структуры па барацьбе з наркаманамі. Прыцягнецца гэтая практыка і зараз. І вось Дарыга вырашыла пакласці ёй канец. Дарыга Назарбаева лічыць, што ў даліне варта пабудаваць фармацэўтычныя заводы, якія будуць рабіць з канопляў лекі. Аргументуючы сваю прапанову пра выгаднае выкарыстанне наркотыкаў, Дарыга сказала наступнае: «Спадзяюся, мяне не абвінавацяць у тым, што я наркаманка. Я ніколі іх нават не паспытала, і нават не ведаю, як анаша пахне, шчыра кажучы». Заява выклікала смех у інтэрнэце. Аднак на самай справе сітуацыя значна сур'ёзней. Напярэдадні візіту Дарыгі ў Чуйскую даліну ў Кыргызстане на самым высокім урадавым узроўні прапанавалі легалізаваць марыхуану. Хаця шмат хто супраць прапановы, усе разумеюць, што гэта адзін з выхадаў затармазіць экспансію ў краіну наркотыкаў, якая можа пачацца пасля сыходу ў бліжэйшы час саюзных войскаў з Афганістану. Блогеры ўсур'ёз кажуць, што сям'я Назарбаевых пад выглядам развіцця фармацэўтыкі ў Чуйскай даліне, збіраецца накласці лапу на ўраджай канопляў, каб пасля легальна прадаваць іх у Кыргызстане.

### ДАНІЭЛЬ ФЕРНАНДА ФІЛМУС



Гэты аргентынскі сенатар трапіў у аналы гісторыі краіны. Ён стаў першым кіраўніком дэпартамента па праблемах Мальвінскіх (Фальклендскіх) выспаў, які быў на днях створаны пры Міністэрстве замежных спраў Аргенціны. Фактычна, ведамства Філмуса бярэ на сябе функцыі эміграцыйнага ўраду астравоў, якія пасля вайны 1982 года кантралюе Вялікабрытанія. Першымі словамі Філмуса на новай пасадзе былі: «Мы ніколі не прымірымся з тым, што ў XXI стагоддзі Аргенціна не можа кіраваць на землях, якія ёсць часткай яе тэрыторыі і акупаваных замежнымі войскамі». Дэмарш аргенцінцаў шакаваў Лондан, які ўвесну мінулага года арганізаваў на выспах рэферэндум па пытанні прыналежнасці архіпелага. Тады 98 працэнтаў тубыльцаў (практычна ўсе яны этнічныя англічане) прагаласавалі за тое, каб Мальвіны (Фальклены) заставаліся брытанскімі. Акрамя брытанскага МЗС свой рашучы пратэст супраць стварэння ведамства Філмаса выказаў адміністратыўны савет Фальклендаў. Адным словам, канфлікт працягваецца. Цікава, што Філмус — нашчадак эмігранта, які да вайны пераехаў у Аргенціну з Польшчы. З улікам таго, што тады ў склад Польшчы ўваходзіла частка Беларусі, не выключана, што кіраўнік Мальвінаў (Фальклендаў) мае беларускія карані.

ПАМЯЦЬ

# ЛЁС ДАЎ НАМ ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА Ў ЦЯЖКІ ЧАС

Марат ГАРАВЫ



**10 студзеня выбітнаму навукоўцу і грамадскаму дзеячу, аднаму з заснавальнікаў і лідараў айчыннага постчарнобыльскага руху Івану Нікітчанку споўнілася б 75 гадоў. Ён сышоў у лепшы свет 20 лістапада 2010 года.**

Гэты мужны даследчык і грамадзянін быў патомкам запарожскіх казакоў. Дзякуючы сваім працам у галіне селекцыі жывёл доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Іван Нікітчанка быў абраны членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Але ў найноўшую гісторыю Беларусі даследчык увайшоў, найперш, як адзін са стваральнікаў айчыннай постчарнобыльскай навукі і нязломны абаронца людзей, пацярпелых ад Чарнобыля.

Яго дзейнасць вельмі блізкая мне, як і тысячам іншых беларусаў, хто перажыў Чарнобыль у забруджаных радыяцыяй рэгіёнах краіны. Памятаю вочы дзетак з гарадоў і вёсак Палесся, якіх пасля 26 красавіка 1986 года вывозілі на аздараўленне праз Гомельскі чыгуначны вакзал, памятаю, як разам са сваімі выхаванцамі ўдзельнічаў у першамайскай дэманстрацыі 1986 года, якую потым не прызнавалі высокія мінскія чыноўнікі, памятаю нібыта абамлелы незвычайна ціхі амаль 600-тысячны летні постчарнобыльскі Гомель, у якім не было чуваць дзіцячых галасоў, памятаю закапаныя чарнобыльскія вёскі і адзінокіх сумуючых палешукоў, ссееленых з зямлі сваіх продкаў і адарваных ад сваіх каранёў…

Іван Нікітчанка выступаў за адмену дзеючых нарматываў утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання і прызнанне таго, што радыяцыя небяспечная ў любой дозе, і кожны чалавек павінен быць абаронены ад яе.

Ён лічыў, што грамадскасць павінна дабіцца стварэння паўсюднай сістэмы радыяцыйнай абароны насельніцтва, якая прадугледжвае вытворчасць чыстых ад радыенуклідаў прадуктаў, жорсткі радыяцыйны кантроль людзей і таго, чым яны карыстаюцца, нармальнае медыцынскае абслугоўванне, якое мае на мэце пастаяннае назіранне за станам кожнага пацыента, аказанне апаратыўнай дапамогі і забеспячэнне бясплатнымі медыкаментамі, вытворчасць і поўнае забеспячэнне прэпаратамі, што блакуюць радыенукліды і паскараюць іх вывад з арганізма, аднаўленне сістэмы выплат матэрыяльных кампенсацый за страчанае здароўе асобам, якія пацярпелі ад Чарнобыля.

Пры гэтым, на меркаванне навукоўцы, заніраванне тэрыторыі краіны варта весці не па ўзроўні забруджання зямель, а па ўдзельнай радыеактыўнасці цела мясцовых жыхароў. Ён звяртаў увагу на тое, што забруджанасць прадукцыі вызначаецца не толькі канцэнтрацыяй радыеізатопаў, але і якасцю глебы, яе вільготнасцю, відам і сортам раслін, тэхналогіяй іх вырошчвання, метадамі перапрацоўкі сыравіны і спосабамі прыгатавання прадуктаў.

Даследчык прыйшоў да высновы, што для атрымання чыстых прадуктаў у межах кожнага сельгаспрадпрыемства неабходна мець чатыры малыя вытворчасці — па аграхабслугоўванні, выпечцы хлебабулачных вырабаў, перапрацоўцы плодаагародніннай і жывёлагадоўчай прадукцыі.

Сярод праблем, што перашкаджаюць арганізацыі радыяцыйнай бяспекі насельніцтва, навукоўца называў закрытасць інфармацыі аб узроўні радыяцыйнага забруджання; непрыдатнасць састарэлых методык для ацэнкі ўдзельнай радыеактыўнасці чалавечага арганізма; забарону праводзіць вымярэнні ўзроўню ўнутранай паглынутай чалавекам дозы радыяцыі без дазволу Міністэрства аховы здароўя; выключэнне сардэчна-сасудзістых захворванняў са спісу захворванняў, выкліканых постчарнобыльскімі наступствамі; адсутнасць сістэмы забеспячэння насельніцтва неабходнымі медыкаментамі, якія павышаюць імунітэт; скарачэнне навуковага забеспячэння пытання радыяцыйнай бяспекі насельніцтва да трох навукова-даследчых установ; чыноўніцкую цяганіну пры доступе да гуманітарнай дапамогі, што паступае ў краіну.

Праз 23 гады пасля Чарнобыля даследчык сцвярджаў, што сітуацыя з радыеактыўным забруджаннем у Беларусі больш складаная, чым у 1986 годзе, бо ўлады ўтойваюць рэальную карціну наступстваў катастрофы ў краіне, дзе кожны жыхар зведвае ўздзеянне радыяцыі.

Гэта выявіў маніторынг апраменьвання чалавечага арганізма, які Нікітчанка правёў са сваімі калегамі. Абследаванні пацвердзілі, што ні ў адным населеным пункце Беларусі няма людзей, якія не адчулі б уздзеянне радыяцыі. І што самае жахлівае — у дзяцей быў зафіксаваны ўзровень апраменьвання ў два разы большы, чым у дарослых.

23 кастрычніка 2009 года Іван Нікітчанка накіраваў ліст да Лукашэнкі з заклікам аднавіць комплексную сістэму абароны насельніцтва ад радыяцыі, якая павінна распаўсюджвацца на кожнага жыхара Беларусі і быць даступнай.

У лісце даследчык, у прыватнасці, адзначаў, што недаацэнка наступстваў Чарнобылю прывяла да істотнага забруджвання глебаў практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі, каля 80% дозы апраменьвання людзі атрымліваюць праз забруджаныя прадукты харчавання, прычым аб'ём гэтых прадуктаў не змяншаецца, а павялічваецца.

Аўтар ліста паведамляў, што незалежныя навуковыя даследаванні медыкаў устанавілі «надзвычай негатыўны ўплыў» малых доз радыяцыі на здароўе чалавека.

Размова ідзе аб росце дзіцячай смяротнасці і колькасці нараджэнняў малавагавых дзяцей, шырокім распаўсюджанні хранічнай паталогіі сярод дзяцей, зніжэнні функцыянальных магчымасцяў арганізма больш чым у двух трацін школьнікаў і змяншэнні працягласці жыцця, значным росце смяротнасці ад сардэчна-сасудзістай, цэрабральнай і анкалагічнай паталогіі ў маладым узросце, а таксама аб прыкметным скарачэнні насельніцтва (на 678 тыс. чалавек з 1993 года).

Нікітчанка заклікаў перагледзець канцэпцыю бяспечнага пражывання людзей на тэрыторыі, забруджанай радыенуклідамі, адмяніць усе нарматыўныя дакументы наконт гэтага, выдадзеныя з парушэннем заканадаўства, аднавіць эфектыўную сістэму радыяцыйнага кантролю прадуктаў харчавання, забяспечыць вытворчасць на забруджаных тэрыторыях умоўна «чыстых» прадуктаў харчавання, якія не дапускаюць накаплення хранічнай унутранай паглынутай дозы радыяцыі.

Навукоўца арганізаваў і ўзначаліў Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў, ягонае праўдзівае слова пра вастрыню радыяцыйных наступстваў для Беларусі гучала ў незалежнай прэсе і на Чарнобыльскіх шляхах, у вёсках, гарадах і на міжнародных канферэнцыях.

Сябра Рады беларускай інтэлігенцыі і Партыі БНФ, Іван Нікітчанка ўваходзіў у створаны ёю ценявы кабінет, быў старшынёй аграпрамысловай камісіі Нацыянальнага выканаўчага камітэта, зацверджанага аб'яднанай апазіцыяй.

Напрыканцы 2010 года Іван Нікітчанка займаўся падрыхтоўкай пераліку афіцыйных постчарнобыльскіх дакументаў, што супярэчаць заканадаўству, планаваў стварэнне міжнароднай чарнобыльскай арганізацыі. А паколькі беларускія ўлады не прызнавалі небяспеку малых доз радыяцыі, якія разбураюць арганізм чалавека на малекулярным узроўні і выклікаюць не толькі анкалагічныя, але і саматычныя захворванні, у тым ліку сардэчна-сасудзістай і эндакрыннай сістэм, органаў дыхання і стрававання, а таксама дачасную смерць і наступствы на генетычным узроўні, даследчык вырашыў звярнуцца ў суд з іскамі супраць шэрагу дзяржаўных структур, а таксама ў міжнародныя арганізацыі.

12 лістапада 2010 года навукоўца ўдзельнічаў у сустрэчы прадстаўнікоў грамадскасці з амбасадарам Германіі Крыстафам Вайлем, дзе абмяркоўваліся падрыхтоўка міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 25-годдзю Чарнобыльскай трагедыі, праблемы пераадолення яе наступстваў і сацыяльных гарантый ліквідатарам-чарнобыльцам, а таксама пытанні правядзення прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

Аднак праз некалькі дзён 71-гадовы Іван Нікітчанка загінуў у аўтакатастрофе пад Маладзечна. Паводле версіі міліцыі, легкавік, за рулём якога знаходзіўся навукоўца, выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтамашынай «ЗіЛ».

Іван Нікітчанка быў адным з лепшых абаронцаў жыцця людзей у Беларусі, заявіў тады доктар медыцынскіх навук, прафесар Юрый Бандажэўскі. Паводле яго слоў, асоба Нікітчанкі заўсёды выклікала велізарную павагу з-за яго паслядоўнай пазіцыі ў дачыненні да людзей, якія пацярпелі ад Чарнобылю. «Гэта быў чалавек, які не прымаў плячо, калі трэба было праявіць прынцыповасць», — адзначыў вучоны. Ён выказаў глыбокае шкадаванне ў сувязі з «заўчаснай, нечаканай і недарэчнай» смерцю Нікітчанкі. «Ён быў сярод лепшых з тых, хто працягвае змагацца за праўду пра Чарнобыль, каб пацярпелыя ад гэтай трагедыі атрымалі адэкватную абарону ва ўмовах, у якіх яны жывуць, — сказаў Бандажэўскі. — Ён быў сур'ёзным навуковым і дзяржаўным дзеячам, які зрабіў вельмі шмат для Рэспублікі Беларусь».

Кандыдат у прэзідэнты, лідар кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Андрэй Саннікаў выказаў упэўненасць, што ў дэмакратычнай Беларусі будуць рэалізаваны ідэі абароны насельніцтва ад постчарнобыльскіх наступстваў, якія адстойваў Іван Нікітчанка

Палітык Вінцук Вячорка адзначыў цэльнасць асобы Нікітчанкі, які быў прыроджаным лідарам. «Лёс даў нам менавіта гэтага чалавека ў цяжкі час, калі трэба абараняцца ад несвабоды і няпраўды пра Чарнобыль. Як кампетэнтны вучоны, ён ведаў праўду аб гэтай трагедыі і з адкрытым забралам змагаўся за яе, нічога не баючыся і не думаючы ні аб якой кар'еры, змагаўся за ратаванне народа ад чарнобыльскага генацыду. І добра разумеў, што ў несвабоднай краіне народу немагчыма выратавацца фізічна», — падкрэсліў Вячорка.

Навуковы і грамадзянскі подзвіг Івана Нікітчанкі заслугоўвае належнага ўшанавання. Упэўнены, што ў будучым імя навукоўцы стане насіць адна са сталічных вуліц, на доме ў Мінску, дзе жыў Нікітчанка, з'явіцца мемарыяльная дошка, пабачыць свет зборнік артыкулаў даследчыка, кніга ўспамінаў і дакументальны фільма пра яго, будуць заснаваныя імянная стыпендыя Івана Нікітчанкі ў Міжнародным дзяржаўным экалагічным універсітэце імя Андрэя Сахарава ў Мінску і прэмія «За грамадзянскую мужнасць» для беларускіх навукоўцаў, а на радзіме даследчыка ў Бранскай вобласці Расіі адчыніцца мемарыяльны музей Івана Нікітчанкі.



ЦІКАВА

# ПАЛЯВАННЕ НА АРХІЎ «ДВУЙКІ»

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У пачатку Другой сусветнай вайны ў рукі савецкіх і нямецкіх спецслужбаў трапілі дакументы польскай выведкі. Большасць з іх да сённяшняга дня не вярнулася на радзіму.**



Першы шэф «Двуйкі» Ігнацій Матушэўскі

«Дакументацыя польскай даваеннай выведкі з'яўляецца найважнейшымі польскімі архіўнымі дакументамі, якія знаходзяцца ў Расіі», — заявіў у адным з мінулагодніх інтэрв'ю кіраўнік польскай архіўнай службы прафесар Уладзіслаў Стэмпняк. Гутарка ідзе пра матэрыялы Другога аддзелу Генштаба Войска Польскага, якія сталі савецкімі трафеямі з пачатку на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1940 годзе, а пазней, на завяршальным этапе Другой сусветнай вайны, падчас вызвалення часткамі Чырвонай Арміі Усходняй Еўропы.

## Пачатак польскіх спецслужбаў

Стварэнне структур выведкі і контрвыведкі ІІ Рэчы Паспалітай пачалося 13 лістапада 1918 года, калі ў сістэме Генеральнага штабу з'явіўся VI (Інфармацыйны) аддзел, які праз год быў перайменаваны ў Другі аддзел, ці «Двуйку». Пасля заканчэння польска-бальшавіцкай вайны менавіта гэтая структура стала галоўным выведвальным органам міжваеннага польскага войска. У 1921 годзе ў цэнтральнай штабкватэры Другога адзела, якая размяшчалася на Саксонскай плошчы ў Варшаве, працавалі 64 афіцэры, 12 падафіцэраў, 1 харунжы і 20 грамадзянскіх служачых. Першым шэфам польскай спецслужбы быў падпалкоўнік Ігнацій Матушэўскі.

У складзе службы былі наступныя аддзелы: арганізацыйны (стварэнне і ліквідацыя ўнутраных і замежных выведвальных ячэек, падрыхтоўка выведкі на выпадак вайны); аддзел па вывучэнні перыядычных выданняў замежных дзяржаў; аддзел інфармацыі (аналітычныя даследаванні, вывучэнне нацыянальных працэсаў). Але галоўнае месца займаў выведвальны аддзел, у задачы якога ўваходзіла арганізацыя контрвыведвальных дзеянняў, а таксама правядзенне выведкі супраць іншых дзяржаў.

Паступова тут былі сфармаваныя два асобныя рэфэраты (аддзелы): «Усход» (СССР, Літва і іншыя прыбалтыйскія дзяржавы) і «Захад» (Германія). Акрамя гэтага, існаваў «рэферат» планавання дыверсій, шыфравальны аддзел, служба забеспячэння вайсковай і дзяржаўнай таямніцы. «Двуйка» курыравала дзейнасць вайсковых аташатаў пры амбасадах ІІ Рэчы Паспалітай.

Неабходнасць атрымання больш глыбокай інфармацыі пра небяспечных суседзяў прывяла да ўзнікнення ў складзе Адзела інфармацыі асобных рэфэратаў «Расія» і «Германія». Яны займаліся аналізам сітуацыі ў СССР і ў Веймарскай рэспубліцы, а пазней — Трэцім Рэйху. Вывучэннем сітуацыі ў іншых краінах займаўся рэферат агульных даследаванняў.

У 1930-х гадаў узрастае роля радыёвыведкі, таму ў складзе «Двуйкі» быў створаны адпаведны аддзел. Дарэчы, тут працавалі не толькі кадравыя вайскоўцы, але і навукоўцы. Таксама важным момантам дзейнасці польскай выведкі было вывучэнне структуры нацыянальных меншасцяў у складзе Войска Польскага. Тут гутарка ішла, перш за ўсё, пра жыхароў заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх ваяводстваў ІІ Рэчы Паспалітай (беларусаў, габрэяў, украінцаў), а таксама этнічных немцаў. Напярэдадні Другой сусветнай вайны Аддзел правядзення дыверсій актыўна распрацоўваў аперацыі супраць Чэхаславакіі ў Цешынскай Сілезіі і Закарпацкай Русі (пра аперацыю «Лом» мы ўжо расказвалі ў адным з артыкулаў).

Напярэдадні нападзення Германіі на Польшчу ў Другім аддзеле Генштабу польскай арміі працавала каля 250 афіцэраў і каля 500 цывільных супрацоўнікаў. Прадстаўніцтва «Двуйкі» дзейнічала і ў Заходняй Беларусі. Так, у падпарадкаванні Экспазітуры №1 у Вільні (кіраўнік — маёр Эдмунд Пятроўскі) былі выведвальныя пляцоўкі Корпусу аховы памежжа 1-6 у Гродне, Вільне, Глыбокім, Маладзечне, Стоўбцах і Лунінцы. Таксама пры Камандаванні карпусной акругі IX (Брэст) і III (Гродна) існавалі самастойныя «рэфераты» (прадстаўніцтвы) Другога адзела. Апошнімі шэфамі польскай даваеннай выведкі былі палкоўнікі Ежы Энгліхт і Юзаф Смаленскі.

## Нечаканая знаходка ля Беластока

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу і цягам некалькіх тыдняў далучыла Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну да СССР. Сярод багатых трафеяў «вызвольнага паходу» былі і дакументы «Двуйкі», якія польскія вайскоўцы не паспелі эвакуяваць ці знішчыць. У пачатку сакавіка 1940 года ў адзін з прыватных маёнткаў ля Беластока пад'ехала калона савецкіх вайсковых машын. З яе выйшлі людзі ў блакітных фуражках і накіраваліся ў сядзібу. Праз гадзіну жаўнеры пачалі выносіць з дому цяжкія скрыні і грузіць у грузавікі.

Так у руках НКУС аказалася 250 кілаграмаў найкаштоўнейшых дакументаў рэфэрату



Рыдз-Сміглы ў Францыі

«Усход» Другога аддзелу Генштаба Войска Польскага. Сярод дакументаў былі персанальныя справы не толькі супрацоўнікаў польскай выведкі, але і «канфідэнтаў» — цывільных агентаў польскіх спецслужбаў, у тым ліку і жыхароў Заходняй Беларусі. Напярэдадні нападу нацыстаў на Польшчу архіў быў вывезены з Варшавы на Усход.

Ужо 20 сакавіка 1940 года ў Беласток, Баранавічы, Брэст, Пінск, Вілейку накіроўваюцца спецыяльныя групы НКУС, у задачу якіх уваходзіла выяўленне былых супрацоўнікаў польскіх дзяржаўных органаў, паліцэйскіх, вайскоўцаў і «канфідэнтаў» польскіх спецслужбаў. Можна дапусціць, што важную ролю ў дзейнасці гэтых савецкіх «айнзацгруп» адыгрывалі і дакументы польскай «Двуйкі», якія падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года «панскія» ўлады «забылі» ў Заходняй Беларусі. Гэтыя групы «працавалі» каля двух месяцаў, а вынікам іх працы сталі сотні расстраляных грамадзян былой ІІ Рэчы Паспалітай.

Акрамя гэтага, захопленыя сакрэтныя дакументы дазволілі савецкім спецслужбам правесці глыбокую распрацоўку польскіх афіцэраў, якія знаходзіліся ў лагерах для ваеннапалонных. Нарэшце, вялікая ўвага звярталася на так званую «праметэйскую» дзейнасць Другога аддзелу Генштаба Польшчы, што заключалася ў выкарыстанні ў якасці агентаў эмігрантаў з савецкіх сярэднеазіяцкіх і каўказскіх рэспублік. Напрыклад, у верасні 1939 года ў савецкі палон трапіў афіцэр Войска Польскага па прозвішчы Караеў. Аказалася, што гэты чалавек — былы эмігрант з Закаўказзя. У свой час ён супрацоўнічаў з польскай выведкай і служыў па кантракту ў польскай арміі. Выявіць гісторыю каўказца і яго братоў па няшчасці дазволілі захопленыя дакументы «Двуйкі».



Польскія дакументы

## З Патсдама ў Маскву

Польскія сакрэтныя архівы, атрыманыя НКУС у 1940 годзе, былі не апошнім савецкім «трафеем». У траўні 1945 года ў Патсдаме савецкая армія захапіла дакументы Цэнтральнага вайсковага архіва Трэцяга Рэйха. Сярод нямецкіх папер увагу савецкіх афіцэраў прыцягнулі і дакументы на польскай мове. Хутка стала зразумела, што ў руках савецкіх спецслужбаў архіў Аддзелу «Захад» польскай выведкі, які ў верасні 1939 года быў захоплены нацыстамі ў адным з фортаў варшаўскай Цытадэлі.

Гутарка ідзе пра дакументы III-й экспазітуры «Двуйкі», якая знаходзілася ў Быдгашчы. Гэтае аддзяленне займалася выведвальнай дзейнасцю на тэрыторыі Усходняй Прусіі і Вольнага горада Данцыга. Аналізуючы нямецкія паштовыя адпраўленні, апрацоўваючы дадзеныя ад сваіх агентаў у штабе Люфтвафэ ў Кёнігсбергу, палякам атрымалася сабраць дакладную інфармацыю наконт вайсковага патэнцыялу Трэцяга Рэйху. Пра важнасць архіва ў Быдгашчы сведчыць той факт, што ў першыя дні нападу на Польшчу за архівам палявала спецыяльная група СС. Аднак у будынку экспазітуры дакументаў ужо не было.

Толькі пасля захопу Варшавы нацыстам удалося атрымаць гэты архіў. У выніку каля 100 былых польскіх агентаў, якія працавалі на тэрыторыі Трэцяга Рэйху, былі асуджаныя і пакараныя. Напрыканцы вайны лёс закінуў і гэтую частку архіва польскіх спецслужбаў у СССР.

Большасць дакументаў «Двуйкі» да сённяшняга дня знаходзяцца ў архівах Расійскай федэрацыі. Частка матэрыялаў была скапіравана польскімі даследчыкамі ў пачатку 1990-х гадоў і зараз знаходзіцца ў Цэнтральным вайсковым архіве ў Рэмбертаве пад Варшавай. Польскі бок не спыняе працы па вяртанні дакументацыі даваеннага Другога аддзелу генштабу польскага войска на Радзіму. Аднак сёння гэтая справа ў кампетэнцыі не навукоўцаў, а палітыкаў.



Ігнацій Матушэўскі, першы злева

▸ ПОШТА

# Я БУДУ АДСТОЙВАЦЬ СВАЕ ПРАВЫ

**Зінаіда Цімошак, гераіня артыкула Сяргея Пульшы «Наступ на культуру: кіно не для ўсіх», які быў апублікаваны ў мінулым нумары, даслала ў рэдакцыю свой водгук.**

«Шаноўная рэдакцыя, паколькі так склалася, што я ў сувязі з разгонам міліцыяй кіналекторыя пра Слуцкае паўстанне на пэўны час аказалася ў цэнтры падзей, прашу даць магчымасць выказаць мне дадаткова сваю пазіцыю.

Перш за ўсё хачу звярнуць увагу чытачоў, што на самай справе я не з'яўляюся «радыкальнай» асобай. На сумна вядомым суботніку на могілках у 2011 годзе рыдлёўкі для дэпутатаў пад відам крыжоў выставіла група людзей, якія не прымалі ўдзелу ў суботніку і насуперак майму жаданню. І кіраўніцтва міліцыі пра гэта добра ведае. Падчас складання пратаколу ў Казлоўіцкім доме культуры сам начальнік аховы правапарадку заявіў, што ён ведае, што я не належу да радыкальных груповак. Асноўны мой занятак — дапамога случчанам у адстойванні іх правоў.

Разгон культурнага мерапрыемства і пакаранне за яго арганізацыю штрафам асабіста я ўспрымаю як чарговы наступ не толькі на памяць пра Слуцкае паўстанне, але і на культурныя канстытуцыйныя правы. Дзяржава ў асобе Шкляроўскага, суддзі Пастуховай і пракурора Жукоўскага яшчэ раз пацвердзіла, што беларусы не маюць права на сваю культурную і духоўную спадчыну.

Згодна з артыкуламі нашай Канстытуцыі, культурныя правы забяспечваюцца праз даступнасць агульнадзяржаўных каштоўнасцей. Дамы культуры — гэта таксама агульнадзяржаўная каштоўнасць. Прамы канстытуцыйны абавязак беларусаў — шанаваць і захоўваць культурна-гістарычную спадчыну.

Улада прысабечыла сабе культурныя будынкі і паставіла шкляроўскіх ахоўваць іх ад мірных грамадзян. Каб прымусіць людзей забыць пра тое, што яны — грамадзяне краіны.

Справа ў антыбеларускаці самой міліцыі, суда, пракуратуры і дзяржаўнай ідэалогіі. Справа і ў антыбеларускаці большасці нашай апазіцыі, якая займаецца рознымі справамі, але толькі не змаганнем за самую Беларусь.

Інакш не стаяла б пытанне, пад якімі лозунгамі апазіцыі аб'ядноўвацца. Інакш пад націскам грамадства ў гістарычным Нясвіжы не было б кафэ каля ратушы пад расійскай назвай «У ратуши».

Справа і ў недастатковай салідарнасці сярод тых, хто змагаецца за правы «людзьмі звацца».

Што датычыцца асабіста мяне, я буду працягваць адстойваць свае правы мець магчымасць берагчы культурна-духоўную спадчыну праз суды вышэйшай інстанцыі. Дарэчы, разгляд справы ў Мінскім абласным судзе адбудзецца ў 10 гадзін 21 студзеня па адрасу г. Мінск, вул. Свярдлова, 3.

Запрашаю ўсіх беларусаў, не раўнадушных да тэмы, прыйсці ў суд і сваёй прысутнасцю пацвердзіць жаданне мець сваю сапраўдную гісторыю».

**Зінаіда Цімошак**





▸ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЭДЗІКУ БАЗАНАВУ ПАТРЭБНА ДАПАМОГА

**У рэдакцыю з просьбай пра дапамогу звярнуліся бацькі Эдуарда Базанава. Эдзіку 5 гадоў, у яго ДЦП 4 ступені і эпілепсія. Ужо 4 гады ён знаходзіцца на праграме інтэнсіўнага лячэння ў Інстытуце чалавечага патэнцыялу Глена Домана.**

Праграма прадугледжвае інтэнсіўныя хатнія заняткі бацькоў з дзіцём па прызначанай інстытутам праграме, і прыезд 1–2 разы на год у ЗША для абследавання дзіцяці і карэкціроўкі праграмы заняткаў.

— Гэта будзе 6-я наша паездка, распавядае маці хлопчыка. — Ужо цяжка пералічваць кожны наш візіт у ЗША і дасягнутыя вынікі. Мы папросту не здаемся і ідзём наперад. Мы бачым, як паволі ідзе развіццё нашага дзіцяці, на якім пры нараджэнні лекары паставілі крыж. Па іх словах, ён быў сляпым, тупым і асуджаным на вечныя сутаргі. Сёння Эдзік выдатна бачыць, чытае, вырашае матэматычныя задачы, зносіцца з бацькамі пры дапамозе адмысловай методыкі, разумее навакольны свет, гуляе, капрызіць, крыўдзіцца, смяецца, нязграбна спрабуе хапаць ручкай рэчы, пры кожнай магчымасці спрабуе ўстаць на ножкі. А галоўнае — ён паўзе! Хай пакуль яго шлях вылічваецца сантыметрамі, але самастойны рух — гэта запаветная мара, гэты цуд, гэта казка, гэта штодзённая праца, гэта апантаная вера любых звычайных бацькоў, гэта неверагодная сіла асаблівага 5-гадовага хлопчыка.

І пакуль адзінае месца ў свеце, дзе вучаць самастойнаму руху, — гэта Інстытут Глена Домана ў Філадэльфіі. А яшчэ — гэта адзінае месца, дзе без лекаў спраўляюцца з эпілепсіяй.

Так, у наш мінулы прыезд, год таму, Эдзіку была прызначана ўнікальная, запатэнтаваная інстытутам, кіслародная маска.

Апошняя наша паездка адбылася ў лютым 2013 года. Ад таго часу ўвесь год мы актыўна займаліся і збіралі грошы на наступную паездку. І вось падышоў час для чарговага візіту — ён прызначаны на 3 сакавіка 2014 года.

Мы здолелі сабраць 6 300 долараў ЗША, агульная сума выдаткаў на 1 паездку складае прыкладна 11 500 долараў. Такім чынам, трэба сабраць яшчэ 5 000 долараў.

Усе справаздачы па сабраных і выдаткаваных сродках за папярэднія паездкі — на нашым сайце dcp.by.

Дапамагчы можна, пералічыўшы сродкі на дабрачынны рахунак, адкрыты ў філіяле №514 у АСБ «Беларусбанк»

УНП 100420097; МФО 153001614. Прызначэнне плацяжу: На Дубінка Вольгу Вячаславаўну для лячэння сына Базанава Эдуарда.

У беларускіх рублях — №000000008 (Транзітны рахунак №3819382102369 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

У доларах ЗША — №8400000000112 (Транзітны рахунак №3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

Уеўра — №9780000000018 (Транзітны рахунак №3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

У расійскіх рублях — №6430000000009 (Транзітны рахунак №3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

Кашалёк Paypal: lorena.vlds@mail.ru

Нумар кашалька EasyPay: 09814460

Нумары кашалькоў Webmoney:
Беларускія рублі: B131285312953
Долары ЗША: Z310650633740
Расійскія рублі: R249762746578
Еўра: E149232757799

Для паштовых пераводаў:
Атрымальнік: Дубінка Вольга Вячаславаўна. Пашпарт MP 2051911, выдадзены Савецкім РУУС г. Мінска. Адрас: 220017, г.Мінск, вул. Кунцаўшчына, 15–15

Кантактная інфармацыя мамы дзіцяці: Дубінка Вольга Вячаславаўна. Тэлефон: (017) 3906858 (хатні), (044) 7002707 (Велком)

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 64

Падпісана да друку 17.01.2014. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.